Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

IV СЭСІЯ ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ Б. С. С. Р. VII СКЛІКАНЬНЯ

# БЮЛЕТЭНЬ

## № 3



19 студзеня 1927 г.



МЕНСК

## Да ведама прамоўцаў.

Усе прамоўцы, якія заўважаць недакладнасьці ў сваіх прамовах, зьмешчаных у бюлетэнях Сесіі, павінны зараз-жа пасьля атрыманьня бюлетэню заявіць аб гэтым ў рэдакцыйную камісію. Гэтая заява і папраўкі павінны быць зроблены на працягу трох гадзін па выдачы бюлетэню. Пасьля гэтага тэрміну прамовы будуць аддавацца для друку ў стэнаграфічнай справаздачы Сэсіі, і ніякія заявы аб зьменах і папраўках прымацца ня будуць.

---

**Заўважаныя памылкі у папярэдніх бюлетэнях.**

Бюлетэнь № 2 старонка 23 радок 12 зьверху—надрукована—лёнаткацкая, павинна быць—лёнапрадзільная.

надрукована . . . . . . 1200

трэба . . . . . . . 1800

На старонцы 26 радок 33 зьверху надрукована—кольkaсьцю зямлі—551 дзес."—не чытаць.

---

Менск, 1-я дзярж. друкарня зак. № 1152—300. Галаўлітбел. № 23799.

## Вячэрняе пасяджэньне.

*19 студзеня 1927 г.*

*Старшыня т. Чарвякоў.*



Старшыня: Вячэрняе пасяджэньне абвяшчаю адчыненым. Слова па дакладзе аб мясцовым і дзяржаўным бюджэце мае тав. Васілевіч.

Тав. Васілевіч: Таварышы, у сваім дакладзе я павінен, па даручэньні Саўнаркому, даць падрабязную характарыстыку дзяржаўнага і мясцовага бюджэтаў Беларусі ў складзе 10-ці акруг і агульны агляд бюджэтаў Гомельскай і Рэчыцкай акругі, уключаючы па гэтых акругах выдаткі па дзяржаўных і мясцовых бюджэтах. Па ўсёй БССР, разам з Гомельскай і Рэчыцкай акругамі, дзяржаўны і мясцовы бюджэт балянсуецца круглым лікам у 96.000.000 рублёў (разам з абаротнымі сумамі). III-я Сэсія ЦВК ад 2-га ліпня 1926 году, заслухаўшы даклад аб пэрспэктывах і асноўных пачатках складаньня дзяржаўнага і мясцовага бюджэтаў на 1926-27 год, дала наступныя асноўныя дырэктывы:

Пашырэньне бюджэту накіраваць, галоўным чынам, на прамысловасьць, дзяржаўную і мясцовую, і сельскую гаспадарку; задаволіць культурныя патрэбы па меры росту матар'яльных рэсурсаў Рэспублікі; выкарыстаць усе прыбытковыя крыніцы па дзяржаўных і мясцовых бюджэтах; павялічыць долевы ўдзел у бюджэце непадатковых прыбыткаў; выявіць максымальную экономію ў расходваньні сродкаў; скараціць адміністрацыйныя выдаткі і штаты; падцягнуць ніжэйшыя стаўкі заработнай платы; нормаваць заработуню плату, у першую чаргу,— па дзяржаўным бюджэце: выдзеліць з агульна-акруговых бюджэтаў бюджэты гарадоў; працягнуць практыку складаньня местачковых бюджэтаў; узмацняць і пашыраць раённыя бюджэты; завесьці складаньне сельсаветамі прыбыткова выдатковых каштарысаў і ў форме практыкі выдзеліць у кожнай акрузе па адным сельсавецкім бюджэце; утварыць рэспубліканскі фонд рэгуляваньня мясцовых бюджэтаў; утварыць у мясцовым бюджэце прамысловы фонд; павялічыць асыгнаваньні на вайсковыя ўстановы; прыцягнуць шырокія працоўныя масы да складаньня бюджэтаў.

Гэтыя асноўныя дырэктывы былі пакладзены ў аснову пры складаньні дзяржаўнага і мясцовага бюджэтаў на 1926-27 год.

Справаздачу аб выкананьні агульных дырэктыў III-й Сэсіі я лічу неабходным прадставіць на аснове аналізу галоўных частак прыбыткаў і выдаткаў па дзяржаўных і мясцовых бюджэтах за апошнія тры гады. Зрабіць гэта неабходна для таго, каб, на аснове не паасобных, але абагульненых момантаў, правільна прадставіць як дадатныя, гэтак і адмоўныя бакі бюджэтаў 1926-27 году. Я лічу, што паданыя дырэктывы Сэсіі павінны разглядацца ня толькі з пункту погляду выкананьня іх у стасунку да бюджэтаў бягучага году: яны зьяўляюцца самі па сабе з працягам агульнай лініі ўраду па ўсім народна-гаспадарчым жыцьці за гады існаваньня больш-менш нормальных бюджэтаў; і гэтая

агульная лінія чырвонай стужкай павінна праходзіць у прыбытковай і выдатковай частках дзяржаўнага і мясцовага бюджэтаў на працягу шэрагу гадоў.

Аналіз дзяржаўных і мясцовых прыбыткаў і выдаткаў будзе рабіцца па дзяржаўных і мясцовых бюджэтах сумесна, бо я думаю, што такі мэтод дасьць найбольш выразнае і правільнае прадстаўленьне як аб сіле і выкарыстаньні прыбытковых крыніц, так і аб тым кірунку, па якім выдаюцца дзяржаўныя рэсурсы.

Даныя мною будуць прыводзіцца за 1923-24 год і 1924-25 год па канчаткова праверанных, а за 1925-26 г. па папярэдніх даных Наркамфіну аб выкананьні бюджэтаў (дзяржаўнага і мясцовага). Бюджэты прыводзяцца па сводках бюджэтаў, зацьверджаных СНК, з некаторай наступнай зьменай па мясцовым бюджэце.

Усе прыбыткі, якія зьбіраюцца на тэрыторыі Беларусі па бюджэтах дзяржаўных, агульнасаюзных і мясцовых (а я думаю, што для меркаваньня аб сіле прыбытковых крыніц трэба прыняць пад увагу ўсе прыбыткі, якія беларуская гаспадарка дае ў распараджэньне дзяржавы, незалежна ад таго, у які бюджэт яны паступаюць), усе прыбыткі за апошнія тры гады прадстаўляюцца ў такіх круглых сумах: збор падаткаў у 1924-25 годзе—30 мільёнаў рублёў, у 1925-26 годзе—39 мільёнаў рублёў, а ў 1926-27 годзе—42 мільёны рублёў; непадатковых прыбыткаў: у 1924-25—11 мільёнаў руб., у 1925-26—26 мільёнаў руб., у 1926-27—28 мільёнаў руб. Гэтыя даныя паказваюць: 1) што ўсе звычайныя прыбыткі (сюды ўваходзяць непадатковыя прыбыткі, непасрэдныя і пасрэдныя падаткі, якія зьбіраюцца на тэрыторыі Беларусі) на працягу трох год даюць неперарыўны з году ў год рост; 2) што гэты рост у першыя гады быў значным, нават, можна сказаць, бурным; 3) што ў наступныя гады гэты рост робіцца больш павольным. Прыведзеная дынаміка прыбыткаў знаходзіцца ў простай адпаведнасьці з разьвіцьцём усёй нашай гаспадаркі і з заканчэньнем адбудоўчага процэсу ў ім.

Калі прыглядзецца да долевага ўдзелу падатковых і непадатковых даходаў у бюджэтах, дык акажацца, што ў 1924-25 годзе падатковыя займалі 73 проц., іншыя—27 проц.; у 1926-27 г. падатковыя займалі 59,5 проц., непадатковыя—40,5 проц. Мы бачым з году ў год няўхільны рост непадатковых прыбыткаў. Апошняе ў асаблівасьці праяўляецца ў прыбытках, якія паступаюць толькі ў дзяржаўны і мясцовы бюджэты БССР (бяз сум, якія зьбіраюцца на тэрыторыі Беларусі, але залічаюцца ў бюджэт Саюзу); у гэтым выпадку акажацца, што ў той час, як у 1924-25 г. непадатковыя прыбыткі складалі 41,5 проц., а ў 1925-26 г.—55,6 проц. усіх даходаў дзяржаўнага і мясцовага бюджэтаў БССР, адносная вага непадатковых даходаў па проэкту бюджэтаў на 1926-27 г. павышаецца ўжо да 57,1 проц. Гэта азначае, што наш бюджэт будуецца ў асноўным не на базе падаткаў, а з году ў год усё больш і больш на базе непадатковых прыбыткаў. Гэта азначае, што кіраўніцтва савецкай гаспадаркай, якое мы арганізавалі ў кастрычніку 1917 г. і якое мы працягваем зараз, гэтае кіраўніцтва з году ў год дае ўсё большыя і большыя вынікі. І наша дзяржаўная гаспадарка, якая цесна зьвязана з бюджэтам, пачынае адыгрываць усё большую ролю ў гэтым бюджэце; мы маем магчымасьць фінансаваць народную гаспадарку з году ў год ва ўсё большай і большай ступені за кошт самой-жа народнай гаспадаркі, а не за кошт, галоўным чынам, плацельшчыкаў падатку, як гэта было ў першым пэрыодзе нашай працы.

Характарызуючы нашу падатковую сыстэму, я лічу неабходным больш падрабязна спыніцца на трох падатках: на адзіным сельска-га-

спадарчым падатку, прамысловым падатку і мясцовых падатках і зборах. Сельска-гаспадарчы падатак у 1923-24 і 1924-25 гадох займаў выключнае месца ў нашым бюджэце. У гэтыя гады ён зьяўляўся асноўным дзяржаўным падаткам, складаючы ў 1924-25 годзе 25 проц. усіх прыбытковых і 34,5 проц. падатковых паступленьняў па рэспубліцы. Пасьля 1924-25 г. адносная вага гэтага падатку зьмяншаецца, і ў 1926-27 годзе сельска-гаспадарчы падатак займае ўжо другое месца ў шэрагу ўсіх падатковых даходаў.

Гэтым я хачу падкрэсьліць, што, ня гледзячы на павялічэньне агульнай сумы падаткаў, гэтае павялічэньне ідзе не за кошт павялічэньня адноснай вагі абкладаньня сялянскай гаспадаркі. Наадварот, мы маем нават памяншэньне агульнай сумы сельска-гаспадарчага падатку ў бягучым годзе. Праўда, гэтае памяншэньне компэнсуецца некаторым павялічэньнем цэн на лес і большым прыцягненьнем сялянства да аплаты зямлябудаўнічых работ.

Побач з тым, што, як я ўжо казаў, павялічэньне бюджэту адбываецца не за кошт сялянства, што значэньне сельска-гаспадарчага падатку ў нашым бюджэце памяншаецца,—сама сыстэма абкладаньня сялянскай гаспадаркі. з пункту погляду клясавага, з кожным годам паляпшаецца.

У параўнаньні з мінулым годам мы маем наступнае ў абкладаньні сялянскай гаспадаркі. Гаспадарка з даходам да 90 рублёў у год зусім звальняецца ад падатку. У нас, на Беларусі, ад сельска-гаспадарчага падатку ў гэтым годзе звольнена 26 проц. сялянскіх гаспадарак. Сялянства з прыбыткам на едака ад 30 да 80 руб. у год атрымлівае значнае памяншэньне проценту прыбытку ў параўнаньні з мінулым годам—у першай групе гэтых гаспадарак—з даходам ад 30 да 40 руб.—узыманьне прыбыткаў сельска-гаспадарчым падаткам складала ў 1925-26 годзе 4,91 проц., у бягучым годзе—2,79 проц.

Апошняя група гаспадарак з даходам ад 70 да 80 руб. на едака. У мінулым годзе процант узыманьня ў яе прыбытку складаў 9,62 проц., а ў 1926-27 г.—9,18 проц. Такім чынам з прыведзеных цыфраў відаць, што найменш забясьпечаная група сялянскіх гаспадарак атрымлівае ў бягучым годзе палягчэньне падатковага цяжару. Другая група гаспадарак мае нязначнае павялічэньне цяжару падатку — гэта тыя гаспадаркі, якія маюць прыбытак ад 80 да 160 руб. на едака ў год. Тутака мы маем нязначнае павялічэньня проценту ўзыманьня.

І, урэшце, трэцяя група гаспадарак з даходам ад 160 да 500 і звыш рублёў на едака. Для гэтай групы гаспадарак у бягучым годзе процант узыманьня сельска-гаспадарчых падаткаў іхняга прыбытку значна больш, чымся у мінулым годзе.

Такім чынам, у абкладаньні сельскае гаспадаркі за гэты год мы маем зусім азначаную зьяву: непераабкладаньне сялянства і правільнае клясавае разьмеркаваньне цяжару падатку паміж паасобнымі групамі сялянскіх гаспадарак.

Прамысловы падатак. Ён вылічан на 1926-27 год у суме 7.940.000 р. проці 7.030.000 руб. у 1925-26 годзе і 4.908.000 руб. у 1924-25 годзе. У шэрагу падатковых прыбыткаў 1926-27 г. ён займае першае месца. Тутака важна, павялічваючы штогод агульную суму падатку ў бюджэце, тым самым ня выклікаць зьявы пераабкладаньня.

Калі прасачыць рух гэтага падатку ў параўнаньні з абаротамі гандлю, дык мы падыходзім да пэўнага вываду, што павялічэньне з году ў год прамысловага падатку знаходзіцца ў непасрэднай сувязі з павялічэньнем вядомых гандлёвых—прамысловых абаротаў.

Мы маем павялічэньне патэнтаў, выбраных на гандлёвыя падпрыемствы, на пэрсональныя прамысловыя заняткі, а таксама значнае павялічэньне абаротаў гандлю.

У 1923-24 годзе абароты, якія пападалі пад абкладаньне, складалі 123 мільёны рублёў, у 1924-25 годзе—175 міл. руб., у 1925-26 г.—210 мільёнаў рублёў. З прыведзеным ростам абаротаў знаходзіцца ў адпаведнасьці і дынаміка прамысловага падатку.

Такім чынам, бяручы промпадатак, мы не зачапляем ні асноўнага, ні абаротавага капіталу гандлю, за выключэньнем, быць можа, паасобных выпадкаў непаразуменьняў, няправільнасьцяй пры абкладаньні паасобных прадпрыемстваў.

Адсюль відаць, што, не зважаючы на льготы саматужнікам, мы маем падставу чакаць большага руху з году ў год у прамысловым падатку, чымся ў сельска-гаспадарчым падатку. Але разам з тым павялічаны долевы ўдзел у бюджэце прамысловага падатку ня цягне за сабой памяншэньня магчымасьцяй для гандлю ў яго разьвіцьці. Мы ня маем ніякіх даных, якія-б дазвалялі меркаваць аб тым, што прамысловае абкладаньне зьяўляецца цяжкім для гандлю.

І я думаю, што націск, пакуль што слоўны, мне здаецца, ён і абмяжуецца толькі слоўным; гэты націск ня вытрымлівае ніякай крытыкі з пункту погляду запраўднага становішча справы.

У мінулым годзе крыху былі падняты стаўкі прамысловага падатку для некаторых відаў гандлю, у паасобку нізавая коопэрацыя была ў большай ступені абцяжана прамысловым падаткам, чымся раней; у параўнаньні з мінулым годам мы павялічваем абкладаньне ў нізавой коопэрацыі; часткаю па гэтай прычыне, часткаю па прычыне павялічэньня абароту, мы павялічваем прамысловы падатак на 12 проц.

На іншых падатках я спыняцца ня буду, за выключэньнем аднаго мясцовага—рэнты. Рэнта ў нас у бюджэце займае нязначнае месца. Было прынята па дзяржбюджэту 200.000 руб., зараз гэтая сума мяркуецца быць скарочанай, бо наўрад каб яна паступіла. Атрымліваецца гэта таму, што мы ня ведаем, якую колькасьць зямлі і якія землі з боку якаснага нам трэба абкласьці рэнтай. Перад сысканьнем гэтага падатку павінна быць праароблена вялікая праца: вымер зямлі, ацэнка зямлі, адным словам, трэба многа валаводзіцца з гэтым падаткам, каб атрымаць які-небудзь прыбытак. Часткаю віною ў гэтым зьяўляюцца тэхнічныя перашкоды. Няма спэцыяльных людзей у распараджэньні мясцовых бюджэтаў, якія-б заняліся гэтай справай. Ва ўсякім выпадку, гэты падатак у нас знаходзіцца ў самым благім стане. Далей такога становішча цярпець ні пры якіх абставінах мы ня можам. Гэты падатак павінен даваць бюджэту ў два-тры разы большую суму, чымся ён дае ў сучасны момант. Дзякуючы памянёным дэфэктам, мы маем у бюджэце недабор па гэтым падатку, прычым гэты недабор ідзе якраз у тыя рукі і кішэні, якія нам не асабліва важна падтрымліваць,—гэта прыватныя гаспадарчыкі ў гарадох. Праўда, мы іх пакуль што рэгулюем падаходным абкладаньнем, але гэтае рэгуляваньне яшчэ ня поўнае.

Дзякуючы памянёным меркаваньням, я асабліва загострываю пытаньне на рэнце і лічу, што Сэсія павінна даць спэцыяльную дырэктыву па дзяржаўным бюджэце і асабліва па мясцовым бюджэце, закончыць да будучага бюджэтнага году з нявысьветленасьцю об'ектаў рэнтавага абкладаньня, наладзіўшы правільнае вылічэньне і сысканьне гэтага падатку.

Апошняя група падаткаў—гэта пасрэдныя падаткі. Тутака, як і па ўсіх падатках, мы маем з году ў год павялічэньне агульных сум:

у 1923-24 г. ад пасрэдных падаткаў мы мелі 4.900.000 р., на 1926-27 г. мяркуецца адтрымаць 18.000.000 руб.

З году ў год у нас і па гэтым падатку, як і па іншых падатковых прыбытках, агульная сума павялічваецца, прычым мы ня бачым ні ў непасрэдным, ні ў пасрэдным абкладаньні адзнак пераабкладаньня падаткамі плацельшчыкаў у гарадох і вёсках. Павялічэньне ідзе ў сувязі з агульным ростам гаспадаркі і дабрабыту працоўных і непрацоўных. Прычым загострываньне пытаньня па падаходнаму, прамысловаму і сельска-гаспадарчаму падатках ідзе па лініі тых элемэнтаў, якія маюць у сабе найбольшыя накапленьні. Што тычыцца акцызаў, дык найбольшы рост выявілі акцызы, зьвязаныя з гарэлкай, цукрам, сярнічкамі, тутунёвымі выбарамі і тэкстылем, прычым у Беларусі, апрача прычын зьвязаных з самой сыстэмай абкладаньня, гэтае павялічэньне акцызаў знаходзіць тлумачэньне таксама і ў росьце спажываньня і вытворчасьці, а таксама завозу падакцызных продуктаў.

Непадатковыя прыбыткі. У шэрагу іх асабліва цікавымі зьяўляюцца прыбыткі ад прамысловасьці, ад дзяржгандлю (прыбытак) і ад лясоў. У 1923-24 г. ад прамысловасьці паступіла ў бюджэт 260.000 р., у 1926-27 г. мы бяром ужо 3.265.000 руб. Як бачыце, узрастаньне вельмі вялікае. Пры гэтым мы ня прыкмячаем, каб гэты вялікі рост сысканьня прыбыткаў ад прамысловасьці шкадліва адбіваўся на ёй. Мы лічым, што сысканьне прыбыткаў (у тым разьмеры, як я гаварыў) адпавядае магчымасьцям прамысловасьці, тым больш, што дзяржава адначасна ўкладае ў прамысловасьць куды большыя сумы, чымся бярэ ад яе, надаючы разьвіцьцю прамысловасьці больш моцны тэмп.

Ад лясоў у 1923-24 г. мы мелі 2.570.000 р., а ў 1926-27 г. мы маем 21.000.000 руб. Рост вельмі вялікі. Але тутака маецца небясьпека. Пакуль што ў нас лясы зьяўляюцца самай галоўнай крыніцай непадатковых прыбыткаў. За лясамі ідзе прамысловасьць; гэта—два віды непадатковых прыбыткаў, якія будуць даваць усё больш і больш сродкаў бюджэту для накіраваньня іх у народную гаспадарку. Да лясоў дзеля гэтага трэба вельмі ўважліва адносіцца, каб не падарваць асноў гэтага прыбытку. Усім вядома, што штогод высякаецца амаль што гадавы прырост лесу ў Беларусі, і, апрача таго, драўніна, якая расьце на плошчах, прызначаных у зямельны фонд. У далейшым такога зьніштажэньня лясоў мы дапусьціць ня можам. Дзеля гэтага пытаньне ўпарадкаваньня лясной гаспадаркі шляхам больш рацыянальнага выкарыстаньня гэтых лясоў зьяўляецца асноўнай задачай, якую трэба паставіць зараз-жа, і да будучага бюджэтнага году мець ужо практычныя вынікі па яе ажыцьцяўленьню. Мы ня можам выходзіць толькі з таго, што на тое ці іншае мерапрыемства нам неабходны грошы. Наркамзем крычыць і мае падставу крычаць аб неабходнасьці ўпарадкаваць эксплёатацыю лесу, але гэты крык не заўсёды падтрымліваецца, тым болей, што ён сам гэтым упарадкаваньнем павінен займацца. Пытаньні ўпарадкаваньня лясной гаспадаркі неабходна паставіць з усёю рашучасьцю. Матар'яльныя магчымасьці для гэтага ўпарадкаваньня лясной гаспадаркі знойдуцца. Мы павінны паставіць пытаньне аб торфе. Пакуль што прыбыткі ад лясоў зьяўляюцца ў гэтым годзе рэальнымі, і сёньня не стаіць пэрспэктыва скарачэньня гэтых прыбыткаў, але ў бліжэйшай будучыне ёсьць рэальная небясьпека, што прыбытак ад лясоў паменшыцца пры сучаснай эксплёатацыі. Пытаньне аб торфе зьяўляецца пакуль што пытаньнем філёзофскім. Выступаць, пагавараць, і гэтым справа канчаецца. Я лічу, што, калі мы зараз ня будзем больш уважліва адносіцца да лясной гаспадаркі, дык у нас у бліжэйшыя гады ў бюджэце будзе разрыў паміж пры-

бытковай і выдатковай часткамі, і разрыў гэты будзе па лініі непадатковых выдаткаў, па лініі лясоў. Дзеля гэтага хутчэйшае выкарыстаньне торфу зьяўляецца пытаньнем вельмі паважным для далейшага разьвіцьця нашай гаспадаркі.

Я пераходжу да выдатковай часткі. У нас, у Беларусі, маецца цэлы шэраг асаблівасьцяй, якія з году ў год павінны прымацца пад увагу пры вызначэньні сумы сродкаў, якая павінна быць накіравана па тых ці іншых каналах гаспадарчага організму. Тое, што ў нас пераважае ў Рэспубліцы сельская і лясная гаспадарка, прымушае нас вельмі ўважліва адносіцца да фінансаваньня сельскай гаспадаркі. Слабае разьвіцьцё прамысловасьці ў нас вымагае, з аднаго боку, невялікага сысканьня прыбыткаў, з другога боку,—вельмі вялікай дапамогі, якая не заўсёды накіроўваецца на ўтварэньне новых фабрык і заводаў, а часам на ўтварэньне абаротных капіталаў гэтай прамысловасьці. Комунальная гаспадарка вельмі разбурана; мы ў гэтым годзе падыйшлі да такога становішча, што нельга ўзяць ніводнай капейкі з комунальнай гаспадаркі на агульна-бюджэтныя патрэбы. Усе прыбыткі комунальнае гаспадаркі павінны ісьці на гэтую комунальную гаспадарку. Аграрнае перанасяленьне цягне за сабою расьсяленьне і перасяленьне. Зьвязанае з перанасяленьнем і іншымі сваяасабістымі прычынамі, беспрацоўе знаходзіцца ў вельмі складаных умовах. Дзеля гэтага вельмі цяжкім зьяўляецца становішча, калі мы прыступаем да разьмеркаваньня сродкаў між паасобнымі часткамі нашай гаспадаркі і культуры. Ва ўсіх гэтых частках адчуваецца вельмі вострая патрэба, вельмі вострая неабходнасьць і трэба вельмі дасьціпна ўлічаць абставіны, улічаць умовы ў якіх разьвіваецца Беларусь, для таго, каб сродкі накіраваны былі з найбольшай карысьцю для разьвіцьця гаспадаркі і культуры. Вось з улічэньнем гэтых асаблівасьцяй, з улічэньнем пытаньняў выкарыстаньня сродкаў, з высоўваньнем паасобных частак дзяржаўнай гаспадаркі, якія трэба асабліва заахвочваць шляхам фінансаваньня,— з улічэньнем усяго гэтага, на працягу гэтых трох гадоў разьмяркоўваліся грошы па паасобных каналах.

Я зараз агалашу вынікі гэтага разьмеркаваньня, але агульны вывад напрашваецца, што, як і ў прыбытках, мы маем за ўсе тры гады адзінавобразную лінію; мы маем з году ў год узмацненьне позіцый, якія даюць магчымасьць усё больш і больш разьвіваць найбольш важныя гаспадарчыя і культурныя вучасткі ў нашай дзяржаве. На прамысловасьць і электрофікацыю ў 1924-25 годзе было адпушчана 686.000 руб., у 1925-26 г.—3.100.000 руб., у 1926-27 г.—6.893.000 руб. На сельскую гаспадарку: у 1923-24 г.—1.100.000 руб., у 1924-25 г.— 3.600.000 руб., у 1925-26 г.—9.700.000 руб., у 1926-27 г.—12.600.000 руб. На адміністрацыйна-гаспадарчыя і іншыя выдаткі: у 1923-24 г.— 8.200.000 руб., у 1924-25 г.—11.500.000 руб., у 1925-26 г.—14.400.000 р., у 1926-27 г.—13.500.000 руб. Мы маем зусім ясны ў 1925-26 г. пераход на скарачэньне выдаткаў па ўтрыманьню нашых адміністрацыйных і адміністрацыйна-гаспадарчых устаноў.

Перад тым, як перайсьці да характарыстыкі адміністрацыйных выдаткаў і штатаў, трэба сказаць, што побач з тымі сумамі, якія адпускалі ў 1925-26 годзе па дзяржаўным і мясцовым бюджэтах, мы мелі яшчэ водпуск у гэтым годзе 1.950.000 рублёў з займу гаспадарчай адбудовы на прамысловасьць; але затое ў 1926-27 годзе ня ўключаны яшчэ ў бюджэт асыгнаваньні: 840.000 рублёў на пабудову Асінаўскай электростанцыі і 1.000.000 руб. на каналізацыю гор. Менску. Такім чынам, суадносіны гаспадарчых і іншых выдаткаў, паказаныя мною, захоўваюцца.

Мы ня маем адхіленьняў у даным выпадку. У нас з году ў год праводзіцца цьвёрдая лінія, якая зводзіцца да ўзмацненьня асыгнаваньняў на больш важныя вучасткі гаспадаркі. Але разам з тым і культурныя патрэбы ў нас вельмі вялікія, і яны таксама з году ў год здавальняюцца ўсё ў большай і большай ступені.

Народная асьвета: у 1923-24 годзе было асыгнавана 4.600.000 р., у 1924-25 г.—8.200.000 руб., у 1925-26—14.900.000 руб. і ў 1926-27 г.—19.700.000 руб. Выдаткі на ахову здароўя таксама растуць: з 1.700.000 р. у 1923-24 годзе паднімаюцца да 6.400.000 руб. у 1926-27 годзе.

У самым бюджэце і ў прыбытковых і выдатковых частках мы маем асобныя вялічыні, пастаўленыя на такія месцы, якія ў поўнай меры забясьпечваюць выкананьне нашай лініі па разьвіцьці народнай гаспадаркі. Пытаньне толькі ў тым, як выкарыстоўваюцца тыя сродкі, якія мы мяркуем згодна плянаў. Я пастараюся ў канцы дакладу паказаць, як ажыцьцяўляюцца гэтыя пляны, вельмі добра, на наш погляд, намечаныя.

Што тычыцца выкананьня дырэктыў Сэсіі па паасобных пытаньнях, я абмяжуюся паасобнымі спраўкамі. Мы ў гэтым годзе, згодна дырэктывы аб неабходнасьці вылучэньня з агульна-акруговых бюджэтаў гарадзкіх, выдзелілі 15 гарадзкіх бюджэтаў. Мы маем у гэтым годзе 12 местачковых бюджэтаў. Дырэктыва была: узмацняць і пашыраць раённыя бюджэты. Мы лічым, што гэтую дырэктыву мы выканалі ня ў поўнай меры ў тым сэнсе, што ня так ужо чула пашыраем раённыя бюджэты.

Галоўным чынам пашырэньне раённага бюджэту павінна ісьці па шляху ўвязваньня, крыху большага ўвязваньня, раённага бюджэту з мясцовай гаспадаркай. Але з прычыны таго, што мы павінны былі, у першую чаргу, забясьпечыць тыя патрэбы гаспадаркі, якія фінансуюцца дзяржбюджэтам і акруговым бюджэтам, мы не маглі зрабіць поўную ўвязку гаспадарчых асыгнаваньняў з гаспадаркай раёну. Тым ня менш, мы маем рост раённых бюджэтаў; у мінулым годзе раённы бюджэт у сыстэме бюджэтаў Рэспублікі складаў 11.250 тыс. рублёў, адносная вага была 40,5 проц. У гэтым годзе ён складае 16.119 т. руб. і адносная вага падымаецца да 46,4 проц.—значыцца, агульнае падняцьце адноснае вагі, агульнае ўзмацненьне, агульнае пашырэньне раённых бюджэтаў мы маем, хоць, магчыма, і невыстарчаючае. Нам было запрапанавана ўвесьці складаньне сельсаветамі прыбыткова-выдатковых каштарысаў. Мы маем 13 сельсавецкіх бюджэтаў, але мы адзначаем і прызнаем няпоўнае выкананьне дырэктывы ў тым стасунку, што ўдзел сельсаветаў у складаньні каштарысу быў вельмі слабы. Трэба прызнаць, што гэтую працу мы ў гэтым годзе прарабілі невыстарчаюча, і гэтая праца ў нас высьлізнула з рук. Нам трэба будзе ў будучым годзе ўдзел сельсаветаў і раёнаў у складаньні бюджэту зрабіць больш актыўным.

Нам было запрапанавана ўтварыць рэспубліканскі фонд рэгуляваньня. Мы маем яго ў гэтым годзе ў суме 4.373.000 руб. У мінулым годзе мы мелі 1.500.000 руб. Гэты фонд нам служыць для таго, каб не дапускаць надмернага ўзросту бюджэту паасобных акруг за кошт вельмі вялікага недахвату сродкаў у іншых акругах. У нас маецца некалькі акруг, якія маюць, галоўным чынам па віне прыроды, пакуль што вельмі вялікія прыбыткі маюць і вельмі вялікія прэтэнзіі на гэтыя прыбыткі, хоць яны не асабліва ў разьмеры гэтых прыбыткаў вінны. Праўда, гэтыя прыбыткі атрымліваюцца праз гэтыя акругі, праўда, гэтыя прыбыткі, пры пэўнай нездавальняючай рабоце месц, могуць быць зьменшаны, праўда, што 21.000.000 руб. лясного прыбытку будзе

вельмі цяжка атрымаць, калі акругі ня будуць лічыць для сябе абавязковым выпаўніць гэты 21 міл. рублёў. З гэтае прычыны, вядома, ёсьць зацікаўленасьць у тым, каб даходы, якія паступаюць у акругі, давалі некалькі большую магчымасьць для разьвіцьця акруговае гаспадаркі і яна павінна быць, мы іх дапускаем. Але некаторыя акругі невінаваты ў тым, што ў іх няма прыбытковых крыніц—тых, якія ў іншых акругах маюцца. Пагэтаму фонд рэгуляваньня створаны дзеля таго, каб унесьці некаторую роўнамернасьць у рост бюджэтаў паасобных акруг. Некаторая роўнамернасьць існуе; самі акругі, якія атрымліваюць з фонду рэгуляваньня, лічаць, што фонд рэгуляваньня абавязкова павінен быць, а тыя, якія даюць у фонд рэгуляваньня, лічаць, што ён павінен быць, але не ў такой суме, а ў меншай.

Мы таксама атрымалі дырэктыву стварыць у мясцовым бюджэце прамысловы фонд для разьвіцьця мясцовай прамысловасьці, і маем у гэтым годзе 1.404.000 р., якія складаюцца з сродкаў самой прамысловасьці ў разьмеры каля 600.000 р. і каля 800.000 р. з бюджэтных асыгнаваньняў. Такім чынам, прырост бюджэту за лік падатку, за лік іншых прыбыткаў у гэтай суме, каля 800.000 р., будзе накіраваны на разьвіцьцё прамысловасьці.

У леташнім годзе мы ня мелі афармленьня гэтага фонду, і фінансаваньне мясцовай прамысловасьці не адбывалася тым організаваным парадкам, як гэта мяркуецца па бюджэту бягучага году.

Апрача таго, у дзяржбюджэце мы маем 320.000 р., якія, мяркуем, пойдуць на мясцовую прамысловасьць, але пакуль што яны знаходзяцца пад запытаньнем у сэнсе іх рэальнасьці, хоць разам з тым нельга сказаць, каб гэтая сума была нерэальнай.

Нарэшце, яшчэ дзьве дырэктывы. Нам было запрапанована ўзмацніць асыгнаваньне на комунальныя патрэбы вайсковага ведамства. Мы ў леташнім годзе мелі ў бюджэтах 860.000 р., а сёлета прынята 1.300.000 р. Гэта няпоўнасьцю задавальняе ўсе патрэбы, але ў гэтым годзе мы ня можам вылучыць бульшую суму.

Апошняя дырэктыва. Меркавалася прыцягнуць шырокія працоўныя масы да складаньня бюджэту. Паводле маючыхся у нас вестак працоўныя масы прымаюць надзвычайна слабы ўдзел у складаньні бюджэтаў.

Калі паставіць перад сабой пытаньне аб тым, ці правільна разьвязнна пытаньне аб разьмеркаваньні прыбыткаў і выдаткаў паміж дзяржаўным і мясцовым бюджэтамі, дык трэба сказаць, што новае палажэньне аб мясцовых фінансах дае ў бягучым годзе большую базу для разьвіцьця мясцовых бюджэтаў, чымся гэта было раней.

Мы лічым, што ў далейшым некаторыя выдаткі і некаторыя прыбыткі, зьвязаныя з гаспадаркай, павінны будуць адыходзіць у большай меры ад дзяржбюджэту на мясцовы бюджэт. Але сёньня мы ня можам у гэтых адносінах прапанаваць ніякіх новых мерапрыйманьняў організацыйнага парадку, лічачы, што ў 1926-27 годзе мы будзем мець ужо параўнальна лепшае становішча, чымся гэта было раней, у сэнсе ўзмацненьня базы мясцовага бюджэту і большага фінансаваньня праз мясцовы бюджэт найбольш важных патрэб гаспадаркі і культуры.

У сувязі з пытаньнем мясцовага бюджэту я хачу прадэмонстраваць адну таблічку, хоць у ёй маецца надзвычайна шмат умоўнасьцяй аб насычанасьці грашыма паасобных акруг (ня тымі, што знаходзяцца ў грашовым звароце, а бюджэтнымі грашыма). Якія тут умоўнасьці?

Першая—гэта плотнасьць насельніцтва, другая—маюцца некаторыя выдаткі, якія нельга адразу ўва ўсіх акругах праводзіць: напрыклад, у Барысаўскай акрузе будуюць больніцу, яна каштуе звыш

200.000 руб., а такі выдатак нельга ў другіх акругах правесьці ў такім разьмеры, як у Барысаве. Але ўсё такі, ня гледзячы на ўсе гэтыя ўмоўнасьці, можна мець некаторае ўяўленьне з гэтае табліцы аб тым, колькі на душу насельніцтва прыпадае ў паасобных акругах грошай па мясцовым бюджэце (я бяру ўхваленыя Саўнаркомам бюджэты і лічбы апошняга перапісу насельніцтва). Выходзіць даволі цікавы малюнак, прычым, даючы гэтую даведку, я, шчыра кажучы, маю на ўвазе асабліва адну мэту, так як часта мы чуем, што самай беднай акругай у нас, на Беларусі, зьяўляецца Менская акруга, што самае горшае задаволеньне патрэб мае месца па Менскай акрузе. (Сьмех. Яцкевіч: Правільна).

Лічбы наступныя: у Аршанскай акрузе на 1 душу насельніцтва прыпадае—6,70, у Магілеўскай—6,83, у Слуцкай—6,84, у Калінінскай—7,5, у Бабруйскай—8,1, у Барысаўскай—8,23, у Віцебскай—8,11, у Мазырскай—8,11, у Полацкай—8,64 і ў Менскай—11,46 (Менск на першым месцы).

Я агаварваюся, што зьняпраўдзіць гэтую табліцу вельмі лёгка,—таксама лёгка, як лёгка даказваць яе правільнасьць. (Сьмех). Я ўжо казаў, што ў ёй маецца вельмі многа ўмоўнасьцяй, але некаторае ўяўленьне аб разьмерах асыгнаваньня, бязумоўна, можна атрымаць.

У кожным разе, з гэтае табліцы відаць, што ў нас празмернавялікага разрыву між паасобнымі акругамі няма. Поўнага выпраўленьня мы наогул мець ня можам, дзякуючы ўласьцівым экономічным абставінам і розным экономічным магчымасьцям у кожнай акрузе.

Я перахожду да бюджэтаў далучаных да нас частак б. Гомельскай губэрні. У бягучым годзе мы атрымліваем (я падкрэсьліваю—у бягучым годзе) бездэфіцытных дзьве акругі: Гомельскую і Рэчыцкую. Мала таго, з гэтых акруг даволі буйная сума грошай павінна будзе пайсьці на пакрыцьцё дэфіцыту паветаў, якія адыходзяць да Бранскае губэрні. Там цэлы шэраг абавязацельстваў, але ня з бюджэту будзе ўзята, а з прыбыткаў, якія знаходзяцца на тэрыторыі гэтых паветаў. Але там ёсьць другое, там маюцца прыбыткі, якія цяпер праходзяць па бюджэце РСФСР, яны з 1-га студзеня пераходзяць да нас; там маюцца выдаткі, якія праходзяць па бюджэце РСФСР; яны таксама пераходзяць з 1-га студзеня да нас. Разьмер гэтых прыбыткаў і выдаткаў па дзяржбюджэце мы вельмі прыблізна вылічылі ў 2.000.000 р. Мясцовы бюджэт г. Гомелю складае 1.997.000 руб., Гомельскае акругі—2.237.000 р., Рэчыцкае акругі—1.734.000 р. Усяго мясцовы бюджэт адыходзячых да нас частак Гомельскае губэрні складае 5.900.000 р.

Цяпер, разглядаючы мясцовы бюджэт з пункту погляду накіраваньня сродкаў, а прыбытковую частку—з пункту погляду выяўленьня ўсіх прыбыткаў і рэальнасьці гэтых прыбыткаў, па папярэднім азнаямленьні мы прыходзім да такіх вывадаў, што прыбытковая частка гомельскага бюджэту надзвычайна напружана, што ў прыбытковай частцы будзе недабор, дзякуючы таму, што мы будзем мець некаторую замінку ў гандлі, зьвязаную з расфармаваньнем губэрні; у выдатковай частцы мы будзем мець выдаткі, зьвязаныя з расфармаваньнем губэрні; праўда, будзе і экономія на гэтым расфармаваньні. Што пакажа балянс—невядома, але паказаныя акалічнасьці трэба мець на ўвазе.

Апрача таго, па дзяржбюджэце некаторыя выдаткі трэба будзе рабіць звыш тых выдаткаў, якія ўжо там маюць месца. Затым мы маем рашэньне, паводле якога абавязаны будзем (з пункту погляду гаспадарчага гэта зусім правільна) усе вытворчыя пляны ўсіх прадпрыемстваў з дакладнасьцю выканаць, фінансавыя пляны таксама вы-

канаць, а пры тэй замінцы ў рабоце, якую мы зараз маем, трэба будзе надзвычайна ўважліва імкнуцца да таго, каб ня вышла ніякага непаразуменьня.

Мы ня можам сёньня паставіць на разгляд Сэсіі бюджэты Гомельскае і Рэчыцкае акруг выключна па тэй прычыне, што ня скончана работа парытэтнае камісіі, якая зараз канчае работу ў Маскве, з удзелам нашых прадстаўнікоў і прадстаўнікоў РСФСР. Нам думаецца, што трэба будзе гэтае пытаньне паасобна абмеркаваць; мабыць прыдзецца даручыць гэта Саўнаркому і Прэзыдыуму ЦВК.

Але мне здаецца, што нам трэба прыняць абсолютна ўсе меры да таго, каб ніякія ўмоўнасьці ня ўплывалі на выкананьне тых бюджэтаў, якія складзены па г. Гомелю і па Гомельскай і Рэчыцкай акругах. Таксама нам трэба будзе зрабіць абсолютна ўсё, каб тыя выдаткі, якія праходзілі па бюджэце РСФСР, былі поўнасьцю задаволены. Тут мы павінны будзем з т. т. гомельчанамі падрабязна агаварыць недапушчэньне ўсялякіх выпадковасьцяй у выкананьні іх бюджэту. Як быццам падставы дзеля таго, каб мы не дапусьцілі такіх выпадковасьцяй, маюцца вялікія.

Я пераходжу да канца свайго дакладу і прымушаны зараз прадэмонстраваць, як часам скарыстоўваюцца вызначаныя на будаўніцтва сродкі. Мы ня можам па бюджэце 1925-26 г. праконтроляваць скарыстаньня ўсіх грошай. Мы ўзялі на выбарку некаторыя выдаткі і паглядзімо, што фактычна вышла.

Возьмем два найбольш цікавыя выпадкі. У мінулым годзе з сум гаспадарчага аднаўленьня было выдана, па пастанове Экономнарады БССР, 322.500 рэальных рублёў, на пабудаваньне 13-ці маслаапрацовачна-сыраварных заводаў—62.000 руб., 3-х майстэрань па рамонту сельска-гаспадарчага інвэнтару—45.000 руб., на абсталяваньне 5-ці лёнаапрацовачных пунктаў—25.500 руб., на пабудаваньне плодаовашчнага заводу—20.000 руб., на аднаўленьне крухмальнага заводу—10.000 руб., і на пабудаваньне Менакрвыканкомам халадзільніка—159.000 руб. Фактычнае скарыстаньне гэтых грошай, папершае, па маслаапрацовачна-сыраварных заводах прадстаўляецца ў такім выглядзе: вылучаны грошы праз Белсельсаюз і Белсельбанк 62.500 руб.; з гэтых грошай сельсаюзам і Белсельбанкам фактычна перадана організацыям с.-г. коопэрацыі—22.865 руб., г. ё. 35 проц. Рэшта грошай засталася ў Акрсельсаюзе і пушчана ў зварот. З застаўшыхся грошай 40 проц. пушчана ў зварот, а 36 проц. знаходзіцца на бягучым рахунку ў Белсельбанку. На атрыманыя с.-г. таварыствамі і арцелямі сумы прыступлена да будаўніцтва 4-х заводаў, на што страчана 7.000 руб., а застаўшыяся 15.000 руб. часткай пушчаны ў зварот, а часткай знаходзяцца на бягучым рахунку і нязначная частка на руках. У Слуцку быў выпадак—выдача Акруговым сельскім саюзам з адпушчаных 4.800 руб., на пабудову сыраварнага заводу, 4.000 руб. вэксалямі.

Пабудова лёнаачышчальных і лёнаапрацовачных пунктаў прадугледжана ў трох акругох—Віцебскай, Аршанскай і Полацкай. Грошы разьмяркованы: праз сельсаюзы—20.000 руб., Белсельбанк—5.000 руб.

Фактычна атрымана 10.000 руб. З атрыманых грошай на 6.000 р. пачалі будаваць, а на рэшту грошай нічога ня зроблена. Дзеля організацыі трох майстэрань па рамонту с.-г. інвэнтару ў Мазырскай, Полацкай і Слуцкай акругах асыгнавана 45.500 руб. Прайшлі гэтыя грошы: праз Белсельбанк—38.000 руб., і Белсельсаюз—6.000 руб. З агульнае сумы сродкаў, адпушчанай акругам, нізавая сетка атрымала 30.000 р., а 15.000 руб. затрыманы аддзяленьнем Белсельбанку. Мотывы адмаўленьня выдачы гэтае сумы тлумачацца няўзгодненьнем пытаньня паміж

банкам і Акрсельсаюзам. Атрыманыя грошы ня былі скарыстаны. Менскі Акрвыканком атрымаў на пабудову халадзільніка 159.000 руб. Пабудова апошняга даручана „Торгстрою“, якому вылучана для пачатку 54.000 руб. Рэшта—105.000 руб.,—на дзень абсьледваньня лічылася па бягучым рахунку Менакрвыканкому ў Дзяржбанку. Яшчэ адзін выпадак. Тут адзін з слуцкіх таварышоў, калі абгаварвалася пытаньне аб двух крухмальных заводах, у форме анэкдоту расказаў на партыйным зьезьдзе аб тым, што адпускаюць грошы ў такім разьмеры, што, нават, аднаго заводу пабудаваць нельга. Паводле нашых зьвестак, на аднаўленьне крухмальнага заводу адпушчана 85.000 руб., з іх 42.500 руб., атрыманы і пушчаны ў зварот, а 42.500 руб. затрыманы аддзяленьнем Белсельбанку. Паводле даных, якія ў нас маюцца, адпушчана было на абсталяваньне элеватара 15.000 руб., а яны былі скарыстаны на пакрыцьцё завінавачанасьці па пабудове яго. Гэта ўжо з грошай, адпушчаных у мінулым годзе з прыбыткаў па лясной гаспадарцы. Мне ня хочацца прыводзіць больш прыкладаў, а такіх я-б мог прывесьці шмат. Аб чым гэта гаворыць? Гэта гаворыць аб тым, што існуе безадказнасьць у скарыстаньні грошай. Грошы атрымоўваюць, і скарыстоўваюць іх не на будаўніцтва, а паводле свайго асабовага погляду. Звычайна грошы пускаюць у зваротны капітал, таму што гэта шмат лягчэй, чымся накіраваць на будаўніцтва.

З чыйго боку і чаму гэта выяўляецца? Гэта выяўляецца таму, што ў організацый маецца патрэба ў скарыстаньні гэтых грошай на іншыя патрэбы, іначай гэтага ня было-б. Праўдзівей за ўсё, невыстарчальна былі падрыхтаваны да скарыстаньня грошай. Як відаць, гэтыя організацыі робяць гэта не па злой волі, ня з прычыны жаданьня ня выканаць дырэктывы партыі і ўраду, а толькі таму, што няма магчымасьці скарыстаць грошы паводле простага прызначэньня, няма, магчыма, упартасьці, каб як сьлед прапрацаваць пляны будаўніцтва; аднак, факт застаецца фактам. І калі-б уявіць сабе, што такія зьявішчы маюць масавы характар, што даны ўсе тыя лічбы, аб якіх я дакладваў, аб парадку разьмеркаваньня грошай паміж паасобнымі вучасткамі гаспадарак, між паасобнымі відамі гаспадарак, гэтыя даныя ня будуць адпавядаць рачаіснасьці з пункту погляду эфэкту, які яны зробяць у народнай гаспадарцы. Мы ня лічым гэта масавым зьявішчам, але досыць распаўсюджаным. У прамысловасьці яно мае меншае месца, хаця там таксама наглядаюцца падобныя выпадкі. Узяць хаця-б сернікавую фабрыку, якая па сёнешні дзень не скарыстала грошай, фабрыка ня будуецца, не падрыхтаваны пляны і г. д.

Таму мне здаецца, што ў бягучым бюджэтным годзе пытаньне аб скарыстаньні грошай па тым прызначэньні, па якім яны адпушчаны, калі выходзяць з касы, павінна быць на рэдкасьць завострана. Інакай, у гаспадарцы будзе мала эфэкту, калі аграмадныя сумы, накірованыя на гаспадарку, мы будзем скарыстоўваць ня там, дзе трэба. Гэта ў меншай меры датычыць мясцовага бюджэту таму, што па мясцовым бюджэце на будаўніцтва прадугледжаны невялікія асыгнаваньні, якія праходзяць, галоўным чынам, па дзяржаўным бюджэце. З гэтае прычыны пытаньне барацьбы за мэтазгоднае і правільнае скарыстоўваньне сродкаў, якія дзяржаўны і мясцовы бюджэты прадастаўляюць у распараджэньне народнае гаспадаркі, зьяўляецца самым галоўным пытаньнем ва ўсім бюджэтным 1926-27 годзе; гэтую барацьбу за правільнае скарыстоўваньне сродкаў павінны ўзяць на сябе абсолютна ўсе. Сэсія ЦВК павінна па гэтым пытаньні даць спэцыяльную дырэктыву, каб яна адчувалася паўсюды, каб гэтае пытаньне прыцягнула да сябе ўвагу ўсіх, інакай гэта пагражае цяжкімі вынікамі. Прыбытковая частка

бюджэту ў гэтым годзе напружваецца надзвычайна моцна, у выніку чаго нерацыянальнае скарыстоўваньне сродкаў для нас асабліва недапушчальна.

Некалькі слоў аб прыватных пытаньнях бюджэту. Я лічу неабходным на Сэсіі ЦВК гэты момант закрануць. Мы па цэлым шэрагу прычын, вельмі сур'ёзных прычын, часткова недабору, часткова недавучоту, недароду ў гэтым годзе, маем недабор па с.-г. падатку. Разам з тым, у нас у бюджэце стаіць большая сума, чымся мы возьмем; розьніца, прыкладам, у 500.000 р. З гэтае прычыны пытаньне аб спагнаньні ўсяго падатку, які сяляне цяпер павінны плаціць і які яны павінны былі плаціць за леташні год, але засталася нядоімка,—гэтае пытаньне для нас набывае вялікае значэньне. Трэба тут аб гэтым пытаньні пагаварыць і даць дырэктывы аб больш нормальных паступленьнях сельска-гаспадарчага падатку. Паступае ён дрэнна, хаця ён меншы, чымся ў мінулым годзе. Тут неабходна аўторытэтнае ўзьдзеяньне. Па нашых лясных падатках існуе тэндэнцыя атрымаць усялякага роду льготы ў сувязі з замінкамі на рынку і г. д., а гэта пацягне за сабою скарачэньне сум паступленьняў ад лясоў, і затым—скарачэньне выдатковай часткі.

У гэтым годзе асноўны прырост бюджэту ідзе на патрэбы народнае гаспадаркі, на патрэбы прамысловасьці, на патрэбы сельскае гаспадаркі, на патрэбы культурныя. І калі мы ў гэтым годзе дапусьцім недабор у прыбытковай частцы, гэта ўдарыць не па адміністрацыйных выдатках, а па нашых гаспадарчых выдатках, гэта скароціць тэмп гаспадарчага разьвіцьця.

У выдатковай частцы мы маем дырэктыву скараціць адміністрацыйныя выдаткі, падняць зарплату ніжэйшым служачым і нормаваць яе. Мы нормавалі зарплату па дзяржаўным бюджэце, гэта нам каштавала 500.000 руб., мы падцягнулі ніжэйшыя стаўкі. Мы адміністрацыйныя выдаткі скарацілі без заработнае платы на 11 проц. па дзяржаўным бюджэце; па мясцовым бюджэце—менш. Прыдзецца яшчэ дадаткова скараціць на 3—4 проц. Такім чынам, будзе ўсяго 14-15 проц. скарачэньня адміністрацыйных выдаткаў, але калі да адміністрацыйных выдаткаў дадаць і фонд заработнае платы, дык мы будзем мець павялічэньне ў групе выдаткаў супроць леташняга году. Мы не маглі і ня можам захаваць фонду заработнае платы леташняга году таму, што наша заработная плата не зьяўляецца вышэй сярэдняй за такую ў любой саюзнай рэспубліцы. З гэтае прычыны ў нас ніякіх падстаў у затрымцы росту заработнае платы ніжэйшых катэгорый ня маецца. Бюджэт больш ня можа скараціцца па адміністрацыйна-гаспадарчых выдатках без заработнае платы. Але, разам з тым, мы лічым, што выдаткі па ўтрыманьні апарату зьяўляюцца надта вялікімі, што лічбы, якія я агаласіў, паказальныя ў тым сэнсе, што яны—вялікія. Мы прышлі да такога заключэньня, што далейшае скарачэньне выдаткаў, шляхам скарачэньня штатаў (мы ў гэтым годзе іх скарацілі на 3,74 проц.), шляхам скарачэньня падарожных і г. д., дае драбніцы, што гэты шлях нам нічога рэальнага ня дасьць і трэба рэзка паставіць пытаньне аб рацыяналізацыі нашага апарату ня з пункту погляду тэорэтычнага вывучэньня гэтага пытаньня, а з пункту погляду практычнага вырашэньня, па магчымасьці, у гэтым бюджэтным годзе і, у кожным разе, да будучага бюджэтнага году.

Мне здаецца, што тут, у бюджэтнай камісіі, у судакладзе, які яна будзе рабіць па гэтым пытаньні, трэба было-б настойваць каб Сэсія цьвёрда, рэзка падкрэсьліла пытаньне аб неабходнасьці рацыяналізацыі апарату ў будучым бюджэтным годзе, праглядзець існуючую ў нас

організацыю апаратаў кіраваньня дзяржаваю і гаспадаркаю з пункту погляду мэтазгоднасьці існаваньня гэтых організацый. Можа быць некаторыя трэба скараціць, некаторыя сьціснуць, некаторыя злучыць у саміх організацыях. Мы ня можам траціць столькі на нашы апараты, але ў далейшым скарачаць ня можам пры тэй структуры і организацыі, якая ў гэты час існуе.

2-га кастрычніка 1926 г. Савет Народных Камісараў зацьвердзіў дзяржаўны бюджэт на 1926-27 г.: па даходах—47.102.677 руб. і па выдатках—53.690 934 руб, з дэфіцытам у 6.588.257 руб, паставіўшы пытаньне аб пакрыцьці дэфіцыту перад саюзным урадам.

У далейшым, у час працы бюджэтнае камісіі нашага ЦВК, Саўнарком прапанаваў некаторыя нязначныя зьмены паасобных частак бюджэту, якія прыняты бюджэтнаю камісіяю. Саўнарком ухваліў мясцовы бюджэт у 10 ці акругах у збалянсаваных прыбытках і выдатках у 34.770.100 руб. Што належыць да бюджэтаў Гомельскае і Рэчыцкае акруг, дык мы лічым, што Сэсыя павінна даручыць Саўнаркому і Прэзыдыуму ЦВК дадаткова ўлучыць гэтыя бюджэты ў дзяржбюджэт і збор мясцовых бюджэтаў нашае Рэспублікі.

Адно апошняе пытаньне ў выглядзе спраўкі ў сувязі з тым, што апошні час дзе-ні-дзе пачынаюць зьяўляцца гутаркі аб вялікіх нашых прыбытках і аб тым, што саюз гэтыя прыбыткі ў нас забірае і рост наш некалькі затрымліваецца. У дадатак да таго, што таварышы неаднойчы казалі: Разьлікі, якія мы зрабілі, гавораць, што наша беларуская гаспадарка, у сувязі з тым, што яна была надзвычайна зруйнавана, доўгія годы ня здолее разьвівацца, як гэта патрэбна нашай савецкай гаспадарцы, якая знаходзіцца на мяжы з капіталістычнымі дзяржавамі, немагчыма разьвівацца без дапамогі Савецкага Саюзу; што нашыя прыбыткі, якія зьбіраюцца на тэрыторыі Беларусі, менш за выдаткі, якія робяцца на тэрыторыі Беларусі. Яны амаль выходзяцца з тымі выдаткамі, якія мы робім у сябе па дзяржбюджэце і мясцовым бюджэце. Але калі прыняць пад увагу выдаткі, якія Саюз робіць на нашай тэрыторыі, зьвязаныя з чыгункамі іншымі шляхамі зносін, зьвязаныя з арміяй, зьвязаныя з паштовым ведамствам, дык гэтыя прыбыткі далёка не забясьпечваюць выдаткі.

Гэтыя размовы—проста дэмагогія, проста контр-рэволюцыйныя выдумкі, дзеля таго каб, некаторым чынам, бачыць сваю позыцыю ў некаторых выпадках аб самастойнасьці. Вось што я лічыў неабходным па даручэньні Саўнаркому дакласьці Сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту.

С т а р ш ы н я: Слова для дакладу Бюджэтнай камісіі ЦВК мае старшыня Бюджэтнай Камісіі, Народны Камісар Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі тав. Радус-Зяньковіч. (В о п л е с к і).

Р а д у с - З я н ь к о в і ч: Бюджэтная камісія мела магчымасьць разгледзіць ня толькі бюджэты на 1926-27 год, дзяржаўны і сводку мясцовых бюджэтаў на гэты самы год, але і прагледзіць па папярэдніх даных выкананьне дзяржаўнага бюджэту за 1925-26 год.

Я коратка падзялюся з вамі некаторымі з вывадаў і заключэньняў, якія Бюджэтная камісія зрабіла на аснове гэтых матар'ялаў. У чым справа? Мы да бюджэту падыходзім такім чынам і з такім вымаганьнем, каб бюджэт адбіваў у сабе асноўныя малюнак, асноўныя рысы нашай гаспадаркі. Калі паглядзець такім чынам на дзяржаўны і мясцовы бюджэт, каб ён адбіваў нашу гаспадарку, каб паасобныя цыфры ў бюджэце зьяўляліся адбіткам добрай веды, разуменьня паасобных бакоў і частак нашай гаспадаркі, дык што з сябе прадстаўляў бюджэт 1925-26 году? Мы спакойна можам казаць аб недахватах

яго, а таксама і больш раньніх бюджэтаў, бо ў бюджэце бягучага 1926-27 году вельмі значна ад гэтых недахватаў адышлі. Аб старым можна ўспамінаць спакойна, бо ад старых недахватаў мы вылячыліся ва многім.

Бяру бюджэт 1925-26 году. Перш за ўсё пачатковыя цыфры прыбытковай і выдатковай часьцін яго пры канчатковым яго выкананьні вельмі зьмяніліся. Ужо гэта адно гаворыць аб тым, што бюджэт быў складзен прыблізна, без вялікай веды і дакладнага вучоту запраўдных магчымасьцяй і даных нашай гаспадаркі. Паасобныя цыфры былі ня зусім апрацованы і ня зусім увязаны з вытворчымі плянамі і вытворчымі програмамі.

Спачатку прыбытковая частка дзяржбюджэту на 1925-26 год вылічылася (я буду браць у круглых цыфрах) у 23.000.000 руб., канчатковая цыфра, узгодненая з Саюзам, была каля 25.000.000 руб., а ў ходзе выкананьня прыбытковая частка перайшла ў 35.318.000 рублёў.

Выдатковая частка спачатку была складзена намі ў суме 62.745.000 рублёў, канчаткова, па згодзе з Саюзам, устаноўлена была цыфра 43.276.000, пры выкананьні аказалася 43.000.000. У даходнай частцы выявіўся цэлы шэраг новых крыніц, якія раней ня былі прыняты пад увагу, бо дакладнага вучоту прыбыткаў мы яшчэ тады ня мелі. Праўда, асноўным паступленьнем, якое дало такі малюнак у прыбытках, былі лясныя прыбыткі, якія замест 10.000.000, што вылічаліся ў пачатку, далі павялічаную ў два разы суму.

Але далей малюнак яшчэ больш цікавы. У канцы канцоў, кожны бюджэт павінен даваць нам навуку, як трэба складаць бюджэт, як да яго падыходзіць для таго, каб быў дакладны малюнак аб нашай гаспадарцы, каб можна было ім кіравацца. Калі параўнаць бюджэт 1925-26 году з бюджэтамі папярэдніх гадоў, дык будзе яшчэ больш яскравы малюнак. Для мінулага году мы мелі дэфіцыт, які складаў 42 проц. агульнай сумы бюджэту, але мы мелі бюджэты, якія былі ў гэтых адносінах яшчэ горшымі. Бюджэт 1923-24 году на 69 проц. быў дэфіцытным, гэта значыць, 69 проц. не хапала тых прыбыткаў, якія былі сабраны ў БССР для пакрыцьця нашых выдаткаў. Уласныя прыбыткі пакрывалі толькі 30,7 проц. выдаткаў. Бюджэт 1924-25 году быў на 25 проц. дэфіцытным. Бюджэт бягучага году дазваляе, праўда з пэўнай нацяжкай, зьвесьці яго бездэфіцытна. Адно гэта азначае колёсальнае дасягненьне і ня толькі, разумеецца, у тэхніцы складаньня бюджэту, але і па сутнасьці, па зьместу яго.

Суадносіны падатковай і непадатковай частак таксама зьмяніліся рэзка. Т. Васілевіч ужо казаў, што непадатковыя паступленьні адбіваюць у сабе рост гаспадаркі, прамысловасьці, сельскай гаспадаркі і гандлю. Непадатковыя паступленьні ў бюджэце 1926-27 г. займаюць 53 проц., у мінулым годзе яны займалі 47 проц., а ў 1924-25 г.—41 проц. Малюнак зусім ясны—бюджэт больш здаровы. Дэфіцыт, які маецца ў бягучым годзе, складае невялікую частку ўсёй сумы бюджэту,—толькі 11 проц., але, як я казаў, бюджэт сам па сябе дазваляе зьвесьці яго бездэфіцытна.

Што тычыцца бюджэту мінулага году, я адзначу цэлы шэраг рыс, якія заслугоўваюць увагі. Каштарысы паасобных установ у мінулым годзе ня былі ўзгоднены з месцамі, наогул, ня было пэўнай увязкі дзяржбюджэту з мясцовым бюджэтам. Зараз мы зусім сьвядома і з поўным прызнаньнем важнасьці гэтага падкрэсьліваем і праводзім гэтую сувязь. У дакладзе тав. Васілевіча дзяржбюджэт быў правільна дзеля гэтага зьвязан з мясцовым бюджэтам. Паасобныя паступленьні, асабліва па лясным прыбытку выявілі рэзка памылкі першапачатко-

вага вылічэньня. Прамысловы падатак павялічыўся, падаходны падатак таксама павысіўся. Але меліся і недаборы. Асаблівы недабор у прыбытковай частцы па прыбытках ад дзяржаўных маемасьцяй амаль што не на 70 проц., па даходах ад дзяржгандлю і прамысловасьці на 35 проц. і шэраг іншых недабораў. Гэтыя недаборы лішні раз гавораць ня толькі аб тым, што паасобныя ўстановы прамысловасьці, гандлю аказаліся не на вышыні па частцы акуратнага выкананьня пастаўленых у бюджэце цыфраў, але і аб тым, што з дакладнасьцю прыняць пад увагу магчымасьці прыбытковых паступленьняў у той час ня было нават для нас магчымасьці, г. зн. дакладнага вучоту нашай гаспадаркі і паасобных яе галін, дакладнага вучоту і ацэнкі таго, што яны могуць даць, ня было ў нашым распараджэньні. Аб бурным росьце ляснога прыбытку дзяржбюджэту на 1925-26 год ня прыходзіцца нават і гаварыць.

Пры выкананьні дзяржбюджэту на 1925-26 год аказалася неабходным па асобных прыбытковых артыкулах, напрыклад, па фінансаваньню прамысловасьці, па сельскай гаспадарцы, па коопэрацыі рабіць дадатковыя водпускі сродкаў звыш таго, што мелася ў адпаведных каштарысах. Асабліва вялікія водпускі мелі месца на фінансаваньне прамысловасьці (на 97 проц.). Гэта лішні раз паказвае на недахваты вучоту патрэб прамысловасьці і іншых галін гаспадаркі, а таксама недахваты магчымасьцяй задавальненьня іх. Выдаткі на зарплату складалі ў агульнай суме выдаткаў па ўсіх наркаматах, аб'яднаных і неаб'яднаных, на 44 проц. меней, чымся ў мінулым годзе, але ўсё-ж такі давалі высокую цыфру.

Што тычыцца выдаткаў, дык тутака характэрнай рысай было тое, што вылучыліся сярод выдаткаў опэрацыйнага характару выдаткі на асьвету, у параўнаньні з бягучым годам, на 158,0 проц. вышэй мінулага, і выдаткі на ахову здароўя (узрасьлі на 119 ½ проц.). Вельмі мала вырасьлі выдаткі на сельскую гаспадарку (8,5 проц.), хоць іхняя адносная вага ў бюджэце раўна 33,1 проц. Бюджэт у асноўным фінансаваў побач з асьветай і аховы здароўя, побач з т. з. культурнымі патрэбамі, таксама і сельскую гаспадарку. Мінулы бюджэт, паміж іншым, заключаў у сабе тую частку, якая называецца асаблівымі выдаткамі, хоць яна і не займала яшчэ вялікага месца ў бюджэце, а іменна ўсяго 12,5 проц., і ішла на дзьве трэці на сельскую гаспадарку і на адну трэць на прамысловасьць. Гэта было ўжо пэўнае дасягненьне ў бюджэце.

Аб паасобных выпадках парушэньня бюджэтнай дысцыпліны і няправільнага выкарыстаньня сродкаў ужо казаў т. Васілевіч, і я ня буду аб гэтым гаварыць. Апрача таго, маецца цэлы шэраг няўвязак у бюджэце і вялікая сума, каля паўтара мільёна, ня была прынята пад увагу і не фігуравала ў агульным бюджэце. Гэта—сума спэцыяльнага назначэньня і нябюджэтныя сродкі. Наогул паўтара мільёна прайшло без контролю Наркамфіну, без контролу ў агульным бюджэце. Гэта, разумеецца, вялікі недахват у агульнай суме бюджэту. Некаторыя сумы, якія лічыліся за паасобнымі ўстановамі, ня былі выкарыстаны, напрыклад, за Наркампрацай лічылася з 1924-25 г. на працягу двух гадоў сума ў 71.000 рублёў, якая ня была выкарыстана ў гэты час, бо ў нас вострa стаіць пытаньне аб беспрацоўі.

Такім чынам, у бюджэце 1925-26 г. мы маем яшчэ цэлы шэраг недахватаў у складаньні бюджэту. Цэлы шэраг недахватаў у выкарыстаньні бюджэту, у адбіцьці патрэб нашай гаспадаркі, яе становішча і яе магчымасьцяй.

Што тычыцца бюджэту бягучага 1926-27 году, дык перш за ўсё самая падрыхтоўка бюджэту была лепшая, чымся ў мінулым годзе. Мы мелі контрольныя цыфры, якія давалі орыентацыйныя даныя для будучага бюджэту ў адносінах да паасобных галін гаспадаркі, у адносінах да паасобных бакоў нашай працы. Больш дакладна былі разьмяжованы бюджэты дзяржаўны і мясцовы. Дзяржаўным установам, якія знаходзяцца ў акругах, пакладзен пачатак заключэньняў з боку акруг. Але ўсё-ж такі, калі мы бярэм бюджэт сучаснага 1926-27 году і бачым паасобныя цыфры, якія былі прыняты Бюджэтнай Нарадай, якія цыфры былі прыняты Саўнаркомам, якія цыфры былі прыняты Бюджэтнай камісіяй ЦВК і зацьверджаны Прэзыдыумам ЦВК, дык мы ўбачым, што гэтыя цыфры вельмі розьняцца адна ад другой. Контрольныя цыфры Саўнаркому вызначалі прыбытковую частку нашага бюджэту ў 33.000.000 руб., а ў выдатковай частцы дэфіцыт у 21.000.000 руб. Зараз цыфры, прынятыя ЦВК, маюць дэфіцыт толькі каля 6.000.000 руб. Розьніца вялікая. У даходнай частцы Саўнарком намеціў цыфру ў 47.000.000 руб., Прэзыдыум ЦВК і Бюджэтная камісія каля 48.000.000 руб. Расходная частка вызначана Бюджэтнай нарадай у 51.000.000 руб., пастановай Саўнаркому ў 53½ мільёны рублёў і Бюджэтнай камісіяй у 54.000 000 руб. Дэфіцыт зьмяніўся з 21.000.000 руб. да 6 мільёнаў рублёў. Так што і тутака таксама няма поўнага адбіцьця і вучоту, нельга дакладна зрабіць вучот таго, што могуць нам даць паасобныя паступленьні даходнай часткі. Ну, у расходнай частцы цыфры вызначаюцца ўжо больш-менш дакладна і, пасьля ўсіх прахаджэньняў бюджэту, яны наогул сваю асноўную велічыню захавалі. Трэба адзначыць, што пры прахаджэньні бюджэту ў гэтым годзе, як і ў мінулым годзе, ня зусім былі апрацованы вытворчыя пляны і програмы па паасобных галінах працы. Паасобныя цыфры браліся орыентацыйна, згодна цыфраў фактычных выдаткаў мінулага году. Гэтага было, разумеецца, зусім невыстарчаюча, бо гэта мела прыблізны характар.

Чым розьніцца бюджэт гэтага году ад бюджэту мінулага году? Калі параўнаць бюджэт мінулага году з сучасным, то ўбачым, што агульныя цыфры бюджэту прыбытковай і выдатковай частак павялічыліся. Прыбытковая частка—да 47.000 000 замест 35, выдатковая—да 53,4 мільёна замест 48, але ў асноўным бюджэт гэтага году ў сваёй выдатковай частцы замацаваў тое становішча, якое было дасягнута мінулым бюджэтам. Дзяржбюджэт на 1926-27 год дае магчымасьць выраўняць паасобныя стаўкі па паасобных галінах працы, па паасобных баках гаспадаркі, дае магчымасьць павялічыць у адпаведнасьці з патрэбамі той ці іншай галіны расходную частку, і ў асноўным дае магчымасьць замацаваць бюджэт на той вышыні, якое ён дасягнуў у мінулым годзе. У прыбытковай частцы перад намі таксама такое становішча, якое дае магчымасьць зьвесьці бюджэт без вялікага дэфіцыту, высоўваючы неабходнасьць толькі ў вельмі невялікім падтрыманьні цэнтру. Для таго, каб выдатковая частка была захована і далей недасягала той вышыні, мела магчымасьць дзейнага росту, трэба прыбытковую частку бюджэту трымаць на такой вышыні, каб яна не зьмяншалася, а па магчымасьці ўзрастала ў адпаведнасьці з ростам патрэб паасобных галін працы, паасобных ліній устаноў. Выдатковая частка няўхільна будзе расьці, але пакуль што мы адзначаем павольны рост бюджэту. Тое, што ў выдатковай частцы мы замацавалі тую вышыню, на якую паднялася ў мінулым годзе даходная частка, забясьпечвае яе рост. Прыбытковая частка стаіць перад намі моцна, рэзка выдзяляючыся сярод іншых рэспублік сваёй непадатковай часткай, якую мы маем у такім

выглядзе, дзякуючы нашым лясом. Лясныя прыбыткі вызваляюць нас у 1926-27 годзе, як і ў мінулым годзе, а таксама як і ў папярэднія гады. Зьмяншэньне дэфіцытнасьці бюджэту пэўнае. Гэта бок, які трэба адзначыць. Разам з тым, у проекце бюджэту, які прынят СНК і ўхвален Бюджэтнай камісіяй, рэзэрвовы і субвэнцыйны фонды, у параўнаньні з мінулым годам, значна паніжаны. Значна таксама павялічаны асыгнаваньні на прамысловасьць і сельскую гаспадарку і на іншыя капітальныя выдаткі, а таксама захован рост у галіне социяльна-культурных патрэб.

Аб паасобных прыбытковых артыкулах варта пагаварыць. С е л ь с к а - г а с п а д а р ч ы [п а д а т а к. Тая сума, якая стаіць у бюджэце ў нас—7.225.396 руб.; яна ніжэй, чым фактычна паступіла за 9 месяцаў мінулага году (7.721.679 р.), яна ніжэйшая нават, чым паступіла сельска-гаспадарчага падатку ў 1924-25 г. (7.521.241 руб.). Гэта мімаволі зварачае на сябе ўвагу. РСФСР, напрыклад, аддаючы патрэбнае і ўлічваючы рост сельскае гаспадаркі ў гэтым годзе, павышае сельска-гаспадарчы падатак на 34,9 проц. Мы-ж ня толькі не павышаем с.-г. падатку, але зрэзалі крыху ня толькі ў параўнаньні з мінулым, але і з па-залеташнім годам. Гэта—становішча, на якое зьвярнуў увагу НКФ Саюзу, і з гэтым становішчам, пры дапасаваньні нашага агульнага бюджэту, прыдзецца яшчэ мець нямала размоў і ўказаньняў. Тут зусім яснае становішча: калі мы абгаварвалі ў Бюджэтнай камісіі, улічвалі, што ня было намі ўлічана—рост нашае сельскае гаспадаркі, што ў паасобных выпадках, намячаючы сельска-гаспадарчы падатак і праводзячы абкладаньне сельска-гаспадарчым падаткам, мы пралічыліся, што шэраг об'ектаў абкладаньня ўхіляецца ад нашага падліку,— то цяпер, у ходзе працы па зборы падатку, трэба пастарацца гэтыя об'екты, якія ўхіліліся ад падліку, выявіць і, такім чынам, агульную суму збору, паказаную ў акладных лістох, пры фактычным зборы павысіць.

Далей, пры абкладаньні неземляробных заработкаў, мы зрабілі памылку, даўшы адну агульную лічбу для ўсяе Беларусі, але не падышоўшы ўважліва да магчымае рознастайнасьці гэтага проценту абкладаньня па паасобных акругах і нават, можа быць, раёнах. Зараз чуюцца галасы сялян аб тым, што агульнае абкладаньне неземляробчых заработкаў у 10—15 проц. магло-б быць павышана да 20—25 проц. для паасобных акруг і раёнаў. Гэтага мы не зрабілі. Мы парушылі асноўнае, што мелася ў палажэньні аб сельска-гаспадарчым падатку ў гэтым годзе. Было-ж у ім тое, што агульная лічба абкладаньня магла быць узята шляхам абкладаньня тых або іншых об'ектаў абкладаньня, прычым мясцовым выканкомам давалася сума гэтага падатку і гаварылася: больш уважліва прыглядайцеся да характэрных рыс вашае акругі або раёну, рабіце так, каб гэта сума падала магчыма лягчэй, і разьмяркуйце так, каб гэты ўважлівы падлік быў забясьпечаны. Вышаў-жа, нарэшце, няўважлівы падлік і не забясьпечана тая доля ўвагі, якая была патрэбна ў сэнсе палажэньня аб іх і аб падатку. І зараз у нашым бюджэце, як бяльмо ў воку, стаіць гэта лічба, і тут відочна трэба лічыцца з палажэньнем, што пры значным росьце сельскае гаспадаркі, мы ў сваім бюджэце ідзём у Саюз з лічбай, якую вельмі трудна бараніць, з лічбай, якую прыдзецца зараз павысіць толькі за кошт выяўленьня захаваньняў. Праўда, гэты пралік некалькі (толькі некалькі!) зьмяншаецца тым, што збор хлеба ўвосень праходзіў пры дрэнных умовах, частка хлеба прапала, частка зусім ня была сабрана. Быў пэўны малюнак недароду, і становішча сялянства ў шэрагу раёнаў было гэтым вельмі абцяжана. Гэта ў некаторай меры дае аснову стаяць на нашай лічбе сельска-гаспадарчага падатку. Але гэта рэзка

выдзяляе нас з шэрагу іншых саюзных рэспублік. У Бюджэтнай камісіі хоць мелі перад сабою ўказаньні Наркамфіну Саюзу, які дамагаўся лічбы большай, на 1.500.000, усё-ж пастанавілі, і Прэзыдыум ЦВК з гэтым згадзіўся, пастанавілі пакінуць старую лічбу—7.225.396 руб., але з тым, каб гэту лічбу сабраць поўнасьцю ў процэсе выкананьня і пастарацца павысіць за кошт выяўленьня захаваньняў.

З другіх прыбытковых артыкулаў, асобна варта пагаварыць аб прыбытках ад прамысловасьці і гандлю. У гэтым годзе мы маем каля 2-х з паловай мільёнаў супроць 1.125.000 мінулага году, маем у два разы больш, прычым асноўную частку гэтых прыбыткаў дае наша прамысловасьць. Калі яна летась давала 400.000 руб., дык у гэтым годзе ўжо 1.821.000. Праўда, яна зараз і ў выдатковай частцы нашага бюджэту, ў так званых надзвычайных выдатках на капітальныя затраты, атрымоўвае больш, чым летась. Але рост прамысловасьці мы ўлічвалі і, зьмяншаючы суму, якая больш, чым у чатыры разы пераважае леташнюю лічбу, лічым, што не абыходзімся з прамысловасьцю вельмі жорстка. У кожным разе ў тых паступленьнях, якія ўносяцца ў бюджэт, як прыбыткі ад прамысловасьці і гандлю, асноўную частку ўносіць наша прамысловасьць, гандаль-жа, параўнаўча, нямнога (325 тыс.). Сельтрэст па саўхозах таксама дае невялікую лічбу (50 тыс.).

У бюджэце гэтага году супроць першапачатковых прызначэньняў, якія меліся ў проекце, зацьверджаным Саўнаркомам, павялічаны таксама стаўкі прамысловага і падаходнага падаткаў. Мы павялічылі іх значна, лічачыся з тым, што мы маем перад сабою зьмененае становішча, і лічбы, якія мы ў бюджэт уставілі, лічым лічбамі, сапраўды забясьпечанымі да паступленьня.

У стасунку да прыбытку ад рэнты было предугледжана павялічыць суму звыш 120 тысяч. Асобнай протокольнай пастановай мы ўпісалі задачу перападліку зямельных маемасьцяй ў гарадзкіх паселішчах і пераацэнку. Гэта дасьць магчымасьць на будучы год рэнтавы прыбытак значна павялічыць. У гэтым-жа годзе мы не маглі назваць больш або менш цьвёрдую лічбу ў справе збору гэтага падатку, таму што асноўны падлік адсутнічаў.

Лясныя прыбыткі. Лясныя прыбыткі на працягу апошніх трох год даюць вялізны рост: у 1924-25 г.—6.000.000 руб., летась замест 10.000.000,—20.000.000 руб. і ў гэтым годзе—21.000.000 руб. Гэта лічба, у параўнаньні з 1924-25 г., рэзка вырасла.

Што тут мела значэньне?—Бурнае разгортваньне ляснога гаспадаркі, зьвязанае з попытам на драўніну; вялікія звышкаштарысныя водпускі за кошт спэцыяльнага зямельнага фонду трэба было шпарка зьвесьці лес, каб агаленыя плошчы зямлі перадаць у сельска-гаспадарчае карыстаньне сялянству, на аснове пастановы ЦВК, для надзелу безьзямельных і малазямельных; рост цэн і спрыяючыя рынычныя ўмовы. У гэтым годзе ўсё гэта захоўваецца, але гэта ня трывала. Гады праз два-тры зямельны фонд будзе пазбаўлены лесу, і ў выглядзе голае зямлі плошча трапіць у карыстаньне сельскае гаспадаркі, і лесу будзе менш. Трэба мець на ўвазе, што мы зараз у лесасеках моцна ідзем наперад. Якія вывады павінны быць адгэтуль? Бюджэтная камісія гэта мела на ўвазе і ў сваёй пастанове зазначыла вывады дваякага роду: з аднаго боку, больш беражлівыя адносіны да лесу, клопаты аб лесе і сур'ёзная аднаўляючая праца ў адносінах да лесу, побач з зусім сур'ёзнымі ўмовамі,—там, дзе гэта магчыма, замяняць драўляны апал торфам, а ў шэрагу раёнаў у нашай рэспубліцы гэта зусім магчымая і даступная справа. Неабходна аднаўляючая праца ў шэрагу раёнаў, і нельга абмежавацца нават насаджэньнем—гэтай маленькай, любі-

цельскай працай. Патрэбна больш сур'ёзная праца, зьвязаная з навукова-дасьледчай працай у адносінах да вывучэньня ўмоў, лепшага захаваньня, росту лесу, які ёсьць, вывучэньня ўмоў разьвядзеньня лесу. З другога боку, трэба сказаць нашым органам, якія заняты распрацоўкай лесу і пераапрацоўкай яго, нашаму Лесбелу, у асноўным, і іншым організацыям, якія загатаўляюць лес, а таксама і Наркамзему аб больш беражлівых і больш гаспадарчых адносінах да лесу. Адносна Лесбелу задача, відочна, у тым, каб тую масу драўніны і лесу, якія здымаюцца з каранём, выкарыстоўваць, па магчымасьці, аж да карчоў. Разам са збытам лесу-кругляка, узмоцніць мэханічную пераапрацоўку, паставіць пераапрацоўку хэмічную, асабліва ў частцы драўніны, якая застаецца і кідаецца. Гэта дасьць магчымасьць пры зьменшанай плошчы лесу, пры зьмяншэньні масы драўніны, зьнятай з кораню, павялічыць канчатковы кошт продукцыі і гэтым самым палепшыць фінансавае становішча ня толькі Лесбелу, але і дзяржавы. Аб гэтым ішла гутарка і пры абгаварваньні дзяржаўнага бюджэту ў СНК.

Адносна Наркамзему, побач з агульнымі запатрабаваньнямі, каб лясная гаспадарка вялася разумна з ужываньнем усяго, што мае сучасная навука, неабходна зьнішчэньне вельмі неахайных, нават драпежніцкіх адносін да лесу, якія наглядаліся ў мінулыя гады на гаспадарчых распрацоўках Наркамзему.

У кожным разе, лясны прыбытак, калі лясныя плошчы з выкарыстаньнем запаснага зямельнага фонду будуць зьменшаны, рызыкуе быць таксама зьменшаны, і тут патрэбна пэўная страхоўка за кошт паступленьня прыбыткаў ад прамысловасьці і гандлю і, у прыватнасьці, ад прамысловасьці і гандлю лесам, каб было загадзя забясьпечана цяперашняе паступленьне і забясьпечана становішча, што пры зьмяншэньні лясных плошчаў (вырубка) можна мець прыбытак ад іх ня меншы, але магчыма большы, чым ён ёсьць зараз.

Як адна з мер, аб якой трэба падумаць дзеля таго, каб прыбытковую нашу частку зрабіць трывалай,—гэта ўтрыманьне і нават павялічэньне ў прыбытковай частцы нашага дзяржбюджэту адлічэньняў ад агульнасаюзных паступленьняў, у прыватнасьці, ад гэрбавага збору. Бюджэтная камісія думала аб павялічэньні адлічэньняў у наш бюджэт ад саюзных паступленьняў гэрбавага збору і аб пашырэньні гэтага адлічэньня. Ад гэрбавага збору мы атрымоўваем 4 проц. пры агульнай суме гэрбавага збору па Саюзе ў 150 міл. руб., што дае 6 міл. р. Зацьвярджаючы бюджэт, мы ўключылі ў прыбытковую частку 4 проц. з саюзных паступленьняў (6.000.000 руб.) і адначасна пыдымаем хадайніцтва, каб адлічэньне было даведзена да 6 проц., г. зн. яшчэ да 3.000.000 р. Гэта лішняя ўмова, якая спагадае таму, каб мы маглі зьвесьці наш бюджэт бездэфіцытным, альбо з вельмі маленькім дэфіцытам; гэта лішняе забясьпечаньне, лішняя страхоўка таго, што прыбытковая часьць нашага бюджэту ня будзе падлягаць рэзкім хістаньням у залежнасьці ад зьмяншэньня лясных прыбыткаў, альбо ад тае ці іншае выпадковае зьявы; гэта мера, якая дае грунтоўнае забесьпячэньне роўню вышыні выдатковай часьці бюджэту. Ці ўдасца адстаяць 6 проц. адлічэньня ад гэрбавага збору, ці мы павінны будзем застацца пры 4 проц.,—гэта будзе відна.

Характэрная рыса бюджэту гэтага году ў адлічча ад бюджэтаў мінулых год, што бюджэт гэтага году мае магчымасьць за лік звычайных прыбыткаў пакрываць ня толькі звычайныя выдаткі, але і значную частку так званых надзвычайных выдаткаў (пад імем надзвычайных выдаткаў маюцца на ўвазе вялікія траты прамысловасьці, сельска-гаспадарчыя і іншыя). Значную часьць надзвычайных выдаткаў

у гэтым годзе, больш паловы, можна пакрыць за кошт перавышэньня звычайных прыбыткаў над звычайнымі выдаткамі. На працягу шэрагу год мы дасягаем такога палажэньня, якое надзвычайна каштоўна, якое дае магчымасьць так лёгка гаварыць і разважаць аб бездэфіцытным бюджэце. За мінулыя гады такога палажэньня мы ня мелі. У 1924-25 годзе прыбытковая часьць бюджэту крыху больш 10½ міл. руб., але яна не пакрывала звычайных выдаткаў. У 1925-26 годзе прыбытковая часьць бюджэту складала 24.800.000 руб., не пакрываючы звычайных выдаткаў разам з адлічэньнямі ў мясцовы бюджэт.

Трэба сказаць, што калі ў мінулым годзе можна было з дзяржаўнага бюджэту адлічыць у мясцовы бюджэт на яго падмацаваньне каля 10.000.000 р., дык у гэтым годзе ў мясцовы бюджэт адлічана ў паўтара разы больш—17.760.515 р. Гэта зноў асаблівасьць гэтага бюджэтнага году, дзе ён падыходзіць больш дакладна да выкарыстаньня асобных прыбытковых магчымасьцяй, больш строга іх улічвае, больш дакладна выпаўняе лічбы, пастаўленыя ў бюджэце.

Бюджэтная камісія пасьля абгаварэньня спынілася на тым, каб ў нашым бюджэце захаваць рэзэрвны фонд у распараджэньні Саўнаркому і субвэнцыйны фонд, які ідзе на падтрыманьне мясцовых бюджэтаў, пры тым разьмеры, які быў намечаны Саўнаркомам. Была пры абгаварэньні і радыкальная прапанова,—імкнуцца да таго, каб бюджэт гэтага году зьвясьці бездэфіцытна. Варта было-б на гэтую тэму пагутарыць. Мне здаецца, што гэтая гутарка ня была-б бясэнсоўнай гутаркай. Мне думаецца, можна даводзіць і давесьці, што бюджэт бездэфіцытны нам мець больш выгадна, чым бюджэт дэфіцытны альбо з маленькім нават дэфіцытам, які маецца ў гэтым годзе. Значна выгадней мець бюджэт бездэфіцытны і не спрачацца адносна разьмеру субвэнцыйнага фонду, адносна разьмеру рэзэрвнага фонду і г. д.

Ці варта было-б нам у гэтым годзе зьвесьці наш беларускі бюджэт, як ў РСФСР і Украіне без дэфіцыту? Гэтая прапанова будзе яшчэ перад намі ўставаць і аб ёй прыдзецца гутарыць пры ўзгадненьні нашага бюджэту з Саюзным. Пакуль што, ва ўсякім выпадку, мы ў нашым бюджэце маем лічбу субвэнцыйнага фонду і рэзэрвнага фонду, якія меліся ў пастанове СНК, г. зн. 2.500.000 рэзэрвнага фонду і 2.750.000 субвэнцыйнага фонду.

Выдатковая частка нашага бюджэту. Што датычыць ведамсвеных ставак, дык яны ёсьць у матар'ялах, якія раздадзены вам, і я гэтыя лічбы агалашаць ня буду,—вы самі іх знойдзеце. Тут у нас няма вялікіх разыходжаньняў ні з проектам бюджэту Саўнаркому, ні вялікіх спрэчак з папярэднімі ўзгадненьнямі з Наркамфінам Саюзу. Асобныя зьмяншэньні і асобныя павялічэньні, якія былі пры гэтым намечаны, у агуле прымаюцца намі. Але ёсьць шэраг асобных рыс, на якіх варта спыніцца.

Я ня ведаю, ці зьвярнуў увагу хто-небудзь з вас на тое, што гэтымі днямі ў друку паведамлялася аб тым, што Дзяржплян Саюзу прарабіў работу вылічэньня параўнаўчага выдатку на душу ў адносінах каштоўнасьці органаў упраўленьня. Я прывяду гэтыя лічбы: упраўленскі выдатак (разрахунак вядзецца груба, можа, нават, ня зусім дакладна, але вялікае памылкі тут няма), у сярэднім, на душу насельніцтва складае 7 р. 59 к., па РСФСР ён вытрымліваецца нават ніжэй—7 р. 35 к.; па Украіне ён значна ніжэй—6 р. 91 к.; па БССР—9 р. 24 к., значна перавышае сярэднюю па Саюзу; Закаўказьзі—11 р. 92 к., Туркмэністані—13 р. 49 к., Узбэкістані—8 р. 36 к.

Як бачыце, тут мы з нашымі упраўленскімі выдаткамі стаімо даволі высака. Ёсьць яшчэ іншы шэраг прыкладаў. На кожныя 100.000 на-

сельніцтва у сярэднім у Саюзе па ўсіх рэспубліках прыпадае 25,7 штатных адзінак. РСФСР гэтую лічбу перавышае—27,3; Украіна дае рэзкае памяншэньне—17,1, па Беларусі рэзкае перавышэньне—33,4; у Закаўказьзі—41,1, Туркмэністан—28,3, Узбэкістан—18,9 проц.

Вось лішнія паказальнікі таго, што мы маем у нашым апараце і якою цяжкасьцю апарат кладзецца на наш бюджэт. Тут справа ня ў тым, каб так або іначай скараціць штаты. У бягучым годзе мы скарацілі ўсяго 500 з невялікім адзінак. Па функцыянальных установах, больніцах, школах, дасьледчых станцыях і інш,—там мы зьвязаны ў справе скарачэньня. Мы маглі больш вольна распараджацца ў адзелах. Уласьціва 3.900 адзінак уласнага упраўленскага апарату. Калі ўзяць скарачэньне ад гэтых 3.900, дык скарачэньне штатаў складае 16 проц., а калі ўзяць у стасунку да ўсяго апарату, дык гэта будзе менш 3,6 проц. Тут відавочна гутарка ідзе не аб тым або іншым скарачэньні штату, не аб маленькай пераробцы, але аб нечым больш значным. Тое, аб чым трэба гаварыць зараз, я лішні раз здолею пацьвердзіць, калі паведамлю вам аб месцы адміністрацыйных выдаткаў і выдаткаў на апарат у бюджэце 26-27 году. Трэба гаварыць аб грунтоўнай перабудове ўсяе сыстэмы ўпраўленьня, каб яна такім вялікім накладным выдаткам ня клалася на бюджэт.

Бюджэтная камісія спынялася на гэтым пытаньні падрабязна. Бюджэтная камісія ў сваёй пастанове зьвяртае ўвагу Сэсіі на тое, каб гэта зараз-жа, безадкладна, да наступнага яшчэ каштарыснага пэрыяду, да травеня-чэрвеня 1927 г., было ажыцьцёўлена. Неабходна, перш усяго, тое, што на практыцы ўжо праверана і дае станоўчыя вынікі, паставіць і ўжыць больш шырока. Наркамфін ўжо перайшоў на функцыянальную сыстэму, калі аддзелы часьці выпалі зусім, калі асобныя работнікі маюць дакладна вызначанае кола сваіх абавязкаў, дзе мы дасягаем падкрэсьленай адказнасьці ў адносінах да кожнага супрацоўніка. Пры гэтых умовах мы зьменшылі апарат НКФ на 12,7 проц. і па ўсім фінансавым апараце БССР будзем мець экономію 113 000 р. у год. Вопыт гэтае работы трэба шырока выкарыстаць і ўжыць адначасна цэлы шэраг іншых ў такой-жа меры карысных палажэньняў. Пад удар павінен стаць цэлы шэраг апаратаў цэнтральных і акруговых. Неабходна праглядзець іх пад кутом спрашчэньня і ўтаненьня, праглядзець, у якой меры выклікаецца грунтоўнай неабходнасьцю мець іх у такім выглядзе, у якім яны існуюць, і ў тых суадносінах, якія ў процэсе работы ўстаноўлены і ўстанаўляюцца. Але іменна грунтоўныя зьмены трэба будзе ўнесьці ў пабудову і мэтоды, у сыстэму работы усіх ведамстваў. І трэба будзе іменна зараз жа гэта ўзяцца, каб к травеню-чэрвеню месяцам, да новага каштарыснага пэрыоду, мы маглі падыйсьці ўжо з гатовымі матар'яламі, а ня так, як было ў мінулым годзе, а то ізноў будзе шмат рознае мітусяніны і спрэчак, і работа будзе мець мала вынікаў.

Тав. Васілевіч гаварыў аб неабходнасьці ўжываньня навуковай організацыі працы. Тое, аб чым я гавару, гэта адна з прапаноў рацыяналізатарскіх, якія да апарату могуць быць ужыты, якія ўжо на практыцы ўжываюцца і ўжываюцца з вялікім пасьпехам. Ёсьць яшчэ цэлы шэраг момантаў, якія прымушаюць думаць у гэтым-жа кірунку. На 1926-27 год ёсьць абсолютны рост выдаткаў па ведамствах на 22 проц. супроць фактычных асыгнаваньняў 1925-26 г. г., прычым па аб'яднаных наркаматах гэты рост выражаецца ў 13,5 проц., а па неаб'яднаных, г. зн. тых, якія знаходзяцца ў поўнай нашай волі, як напрыклад, Нар. Кам. Аховы Здароўя, Наркамасьветы, Наркамзем, іх выдаткі вырастаюць нават на 23 проц. Тут штось ўцякае ад нашага вока і ва

ўсякім разе гэта тое, што лішні раз забясьпечвае нам тыя лічбы па ўпраўленскіх выдатках, дзякуючы якім мы рэзка вылучаемся сярод іншых рэспублік. Вузка адміністрацыйныя выдаткі: на рамонты, раз'езды, камандыроўкі і інш. параўнаўча з мінулым годам даюць скарачэньне на 130.911 р. Некаторыя наркаматы ў гэтых адносінах даюць абсолютны рост адміністрацыйных выдаткаў, напрыклад, Наркам. Аховы Здароўя, Наркам. Справядлівасьці, Наркам. Сац. Забясьпекі, Наркам. Гандлю, Наркам. Працы.

Фонд заработнае платы ў 1926-27 годзе рэзка вырас. Гэта тлумачыцца часткова тым, што было праведзена дзяржнорміраваньнем, на гэта пайшоў азначаны выдатак, каля 800.000 р.; але фонд зарплаты вырас на 15,4 проц., і тут ёсьць рост і звыш таго, што зьвязана з работаю дзяржнорміраваньня. Тут ізноў такія моманты, якія яўна павінны насторажыць нашу ўвагу ў той бок, каб гэты рост, які адначасна датычыць і мясцовага бюджэту, які таксама на 15-16 проц. павышае зарплату,—каб гэтае ўдаражаньне апарату, тым больш пры адсутнасьці гарантый таго, што гэты апарат дасьць работу іншую, чым дае зараз,—каб гэтае ўдаражаньне мець на ўвазе для барацьбы з ім. Лічбы, якія я агаласіў, прымусілі задумацца і Бюджэтную камісію, і яна адзначыла некалькі палажэньняў. Перш усяго, 10-процантнае паніжэньне адміністрацыйна-гаспадарчых выдаткаў, якое было для нас абавязковым, у асноўным дасягнута. Далей Бюджэтная камісія падкрэсьліла неабходнасьць, каб апараты безадкладна ўзяліся за работу ў частцы зьмены структуры і мэтодаў сваёй работы. Далей Бюджэтная камісія намеціла для вывучэньня, як адзін з шляхаў да патаненьня апарату, пытаньне аб скарачэньні ліку акруг. Напрыклад, возьмем Калінінскую акругу, якая рэзка вылучаецца пасярод іншых акруг ў экономічнай сводцы мясцовага бюджэту; вы можаце параўнаць выдаткі і прыбыткі гэтае акругі. Палажэньне гэтае акругі прымушае нас лішні раз падумаць, як быць з гэтаю акругаю і шэрагам іншых, якія знаходзяцца ў такім-жа палажэньні. Калі падыходзіць да акруговае адзінкі, як да прамежнае між кіраўнічым цэнтрам і непасрэдна працуючай перыфэрыяй (раён, сяло), дык да гэтага пытаньня можна падыйсьці зусім спакойна, вывучыць палажэньне тае альбо іншае акругі і рэгуляваць гэтае палажэньне належным чынам. Усякія хістаньні ў гэтым пытаньні з-за нейкае баязьні павінны быць адкінуты. Гэтая баязьнь ёсьць, часткова Бюджэтная камісія з гэтаю баязьнью палічылася. І, аднак, гэтую задачу трэба ставіць і вырашаць яе, бо абыйсьці яе нельга.

Што датычыць выдатковае часьці бюджэту, дык у бюджэце гэтага году, поруч з рэзкім павышэньнем выдаткаў на прамысловасьці і сельскую гаспадарку, свой рост захоўваюць таксама выдаткі на народную асьвету і ахову здароўя. Гэтыя выдаткі рэзка вылучыліся ў мінулым годзе, таксама вылучаюцца яны і ў гэтым годзе. Магчыма, што ў наступным бюджэце 1927-28 г. такога палажэньня ўжо ня будзе. Магчыма, што ў цьвёрдым і павольна растучым бюджэце нам прыдзецца асноўную часьць прыбыткаў вылучаць у прамысловасьць і сельскую гаспадарку і, параўнаўча, менш на справу народнае асьветы і аховы здароўя, забясьпечыўшы толькі іх натуральны рост. Пакуль што яны захоўваюць свой леташні рост. На народную асьвету ў 1924-25 г. была выдана 2.753.720 руб., г. зн. каля 21 проц. агульнага бюджэту. У мінулым годзе—у 2 разы больш, 5.803.060 р. У гэтым годзе—7.040.000 р., на 21 проц. больш, параўнаўча з мінулым годам. Наркам. Аховы Здароўя таксама мае рэзкі рост. У 1924-35 г. было адпушчана на ахову здароўя 673.265 р., у мінулым годзе—паўтара мільёны (1.513.868 р.) і ў гэтым годзе—каля 2.000.000 р. Рост параўнаўча з

з мінулым годам—на 20 проц. Цэлы шэраг устаноў з мясцовага бюджэту перайшло на дзяржаўны, сетка іх рэзка пашыраецца, многа рамонтаў, а таксама павялічаны выдатак на мэдыкамэнты, харчаваньне і на ўтрыманьне ложкаў.

Наркамзем на працягу апошніх 3-х год рэзка павышае свой каштарыс. У 1924-25 г.—2.803 967 р. У мінулым годзе—5 з паловаю міл. рублёў і ў сёлетнім годзе—7.674.037 р. пры вытворчым пляне ў 7.500.000 р. Адносна месца, якое займае ў бюджэце сельская гаспадарка і прамысловасьць, трэба сказаць, што з мінулага году прамысловасьць павышае сваё адроснае месца ў бюджэце з 28 проц. да 38,8, а сельская гаспадарка—з 45,2 проц. да 35,3 проц. Агульная сума, якую мела прамысловасьць ў мінулым годзе, лічачы і фонд аднаўленьня, рэзка вырастае, становіцца ў гэтым годзе сумаю каля 4.988.000 р., даючы рост на 13,5 проц.

У галіне сельскай гаспадаркі з 3.642.000 р. мы маем у бюджэце гэтага году 4.250.000 р.—узрост на 16,7 проц. Наогул-жа выдаткі на грунтоўнае будаўніцтва ў бюджэце 1926-27 г. падымаюцца да сумы ў 12.038.000 руб. (замест 10.341.100 р. прошлага году). Вось у асноўных рысах дзяржаўны бюджэт.

Бюджэтная Камісія адзначала зусім ясна задачу і абавязак поўнага выкананьня тых ставак, якія ў прыбытковай частцы вызначаны, і таксама ашчэдныя адносіны ў выдаткаваньні. Пункт, які гаворыць аб гэтым, я абвяшчу: „Прызнаючы правядзеньне індустрыялізацыі БССР задачай выключнага значэньня, асабліва ў сувязі з адсталасьцю і разбуранасьцю народнай гаспадаркі Рэспублікі,—лічыць неабходным, выдаткаваньне асыгнаваных па дзяржаўнаму бюджэту на вытворчыя мэты сродкаў з найбольшай гаспадарчай мэтазгоднасьцю і вучотам неабходнасьці далейшага разьвіцьця вытворчых сіл краіны. Даручыць кіраўнічым ведамствам і гаспадарчым органам зьвярнуць асаблівую ўвагу нагляду за выкарыстаньнем па бюджэту сродкаў, якія адпушчаюцца. НКФ у бягучым годзе зьдзейсьніць, бязумоўна, каб спэцыяльныя і па-забюджэтныя сродкі ня мелі далей месца, а па выясьненьні браліся на вучот і праводзіліся па бюджэту на падставе існуючых правіл“.

Яшчэ адзін бок, які Бюджэтная камісія лічыць неабходным падкрэсьліць. Гэта—плянавасьць і ўвязка асобных гаспадарчых мерапрыемстваў паміж сабою і ўдасканаленьне асобных палажэньняў у гаспадарцы, становішчы асобных галін для таго, каб на гэтай падставе можна было ўжо цьвёрда даваць стаўкі асобным лічбам у бюджэце. У мэтах устанаўленьня большай адпаведнасьці фінансаваньня па дзяржбюджэту народнай гаспадаркі, з задачамі несоцыялістычнага будаўніцтва,—прызнаць неабходным распрацоўку ў бягучым годзе асноў генэральнага пляну народнай гаспадаркі БССР, з удзелам у гэтай рабоце, як цэнтральных органаў, так і акруговых і раённых выканаўчых камітэтаў.

М я с ц о в ы я б ю д ж э т ы. Я ізноў такі ня спынюся на асобных падрабязнасьцях, з тэй прычыны, што часу няма, і гэта было-б нудным для Вас. Акругі мелі орыентыровачныя контрольныя лічбы, пададзеныя даволі рана, яшчэ ў чэрвені месяцы. Праўда, контрольныя лічбы выходзілі з субвэнцыі вельмі вялікай—у 4.5000.000 руб. Адміністрацыйны апарат адміністрацыйных устаноў адначасна было прапанована скараціць на 5 проц. Кантрольныя лічбы у тых нагадваньнях, якія былі даны Акрвыканкомамі, усюды перавышаны. Толькі Слуцкі Акрвыканком выканаў дырэктыву аб скарачэньні адміністрацыйных

выдаткаў. Агульная заяўка акруг перавысіла кантрольную лічбу на 15,7 проц.

У адносінах да субвэнцыйнага фонду тут ад мінулага мелася хіба: субвэнцыйны фонд, які меў спэцыяльнае назначэньне, памылкова разглядалі, як лішнюю крыніцу і лішнюю магчымасьць для выкананьня на ўтрыманьне апарату. У гэтым годзе становішча стаіць іншае і зусім выразнае: увесь субвэнцыйны фонд, якая-б ні была яго велічыня, ідзе цалкам на фінансаваньне будаўніцтва. Тыя лічбы, якія меліся ў сводзе мясцовых бюджэтаў па заяўках Акрвыканкомаў—33.315.000, Наркамфін зьменшыў да 28.334.000. Кантрольная лічба для акруг была ў 28.672.000 руб. Цераз Бюджэтную Нараду свод мясцовых бюджэтаў вышаў у суме 29.335.500 руб. на працягу 1923-24 году. Мясцовыя бюджэты даюць пэўны і рэзкі рост. Збор мясцовых бюджэтаў у 1923-24 годзе даваў усяго каля 11.000.000, у 24-25 г. – 18.000.000, у мінулым годзе—26.500.000, у гэтым годзе—34.770.100 р.

Цікавы асобныя падрабязнасьці ў адносінах прыбытковых паступленьняў. Тыя паступленьні, якія зьбіраюцца на тэрыторыі акруг, у бягучым 1926-27 годзе складаюць 87,2 проц. усяго бюджэту,—больш, чым у мінулым годзе; у мінулым годзе яны складалі ўсяго 83,7 проц. Гэтыя прыбыткі павышаюцца ў адноснай вазе; тая частка, якая ішла ў мясцовы бюджэт, як дапамога з дзяржаўнага бюджэту, зьмяншаецца. Але рост прыбыткаў, якія зьбіраюцца на тэрыторыі акруг, ідзе, галоўным чынам, за лік адлічэньняў ад дзяржаўных падаткаў і прыбыткаў. Пры агульным узросьце гэтых тэрыторыяльных прыбыткаў у 6.907.350 р., узрост адлічэньняў роўны 75 проц. усяго прыросту. Гэтае становішча лішні раз прымушае задумацца. Узрост падатковых прыбыткаў перавышае ўзрост непадатковых: 24 проц. і 16 проц. Нязначны ўзрост непадатковых прыбыткаў моцна адстае ад узросту мінулага году. Падатковыя мясцовыя прыбыткі і надбаўкі да дзяржаўных падаткаў і мясцовыя падаткі даюць узрост на 10,1 проц.; непадатковыя-ж мясцовыя зьніжаюцца на 7,3 проц. Прырост мясцовага бюджэту ў 31,5 проц. павінна было ў бягучым годзе так разьмеркаваць, каб палова пашла на патрэбы мясцовай прамысловасьці. Гэта становішча ня выпаўнена. З гэтага прыросту ў 8.332.600 р. галоўная частка, больш паловы, ідзе на сацыяльна-культурныя патрэбы: народную асьвету, ахову здароўя—4.500.000 р., на гаспадарча-вытворчыя выдаткі—2.500.000 р.; адміністрацыйная група і іншыя выдаткі бяруць 1.265.500 р.

Па інтэнсыўнасьці ўзросту першае месца займаюць гаспадарча-вытворчыя выдаткі (43,4 проц.), пасьля ідуць сацыяльна-культурныя (34,5 проц.), і апошняе месца займае група адміністрацыйных выдаткаў (10,8 проц.).

Па адноснай вазе першае месца займаюць культурна-сацыяльныя выдаткі (51,5 проц.), другое месца гаспадарча-вытворчыя—24,8 проц., адміністрацыйныя—17,2 проц. і іншыя—6,5 проц.

Па асобных галінах мясцовай гаспадаркі цікавы рух зьмен у велічыні выдаткаў на працягу апошніх 4 год: на народную асьвету ў 1923-24 годзе выдаткі ўзвышаюцца амаль у 4 разы, на ахову здароўя—у 3 разы; фонд заработнай платы ў 26-27 г. ў мясцовым бюджэце (гэта становішча павінна быць падкрэсьлена)—вырас на 22,5 проц. Праўда, значна пашыраны сеткі ўстаноў, зроблены страты на нармаваньне зарплаты, але цалкам гэта не пакрываецца ўзростам заработнай платы; яна ідзе значна далей, чым павінна была-б пайсьці.

Цяпер становішча з асобнымі бюджэтамі з абавязкам выдзяленьня іх, згодна дырэктыў Сэсіі ЦВК. Тав. Васілевіч тут паказваў на дырэктыву, якая мелася пры прапрацоўцы мясцовага бюджэту—

гэта абасабляць бюджэты акруговых гарадоў, неакруговых гарадоў, местачковыя і сельсавецкія.

Тут меў-бы вялікую цікавасьць вопыт работы з гэтымі бюджэтамі і яго трэба было вывучыць і ў асобна распрацаваным відзе даць сучаснай Сэсіі. Але, на жаль, гэта кніжыца, якую Наркамфін выдаў па збору мясцовых бюджэтаў, ня мае ў сабе гэтага матар'ялу, які даваў-бы распрацоўку па вопыту бюджэтаў местачковых, акруговых і неакруговых гарадоў і сельсаветаў. А такі матар'ял ёсьць і матар'ял цікавы. Калі мы на Бюджэтнай Камісіі пацікавіліся сельскім бюджэтам, што ён з сябе ўяўляе, ці вывучан ён, ці зводзіць ён канцы з канцамі, дык на скорую руку нам былі даны 4 бюджэты, якія зводзяць канцы з канцамі і адзін з іх нават мае перавышэньне прыбыткаў над выдаткамі. У Віцебскай акрузе бюджэт аднаго сельсавету складае 6.219 р., у Калінінскай акр. бездэфіцытны сельсавет—10.000 р., у Слуцкай акр. бездэфіцытны сельсавет—4.700 р., у Магілеўскай акрузе адзін бюджэт, які ня толькі бездэфіцітны, але мае лішкі ў 4.000 р. Мы можам з перакананасьцю сказаць, што ня толькі 4 з 13 сельсавецкіх бюджэтаў будзе ў такім становішчы, але напэўна большы лік. У адносінах да бюджэтаў местачковых неакруговых гарадоў і акруговых гарадоў мы зусім ня маем матар'ялу. Ёсьць матар'ял раённых бюджэтаў. Трэба даць сабе ясную справаздачу ў тым, што калі мы гаворым аб мясцовым бюджэце, дык павінны гаварыць перш усяго іменна аб раённым бюджэце і аб бюджэце сельсаветаў, аб бюджэце перыфэрыі і нізавым і менш гаварыць аб акруговым бюджэце. Асноўная задача ў пабудаваньні бюджэтаў мясцовых—гэта пабудаваньне раённага і сельсавецкага бюджэту. Бюджэтная Камісія на гэтым спынілася і адзначыла, што мы затрымалі доўга сваю ўвагу на этапе афармленьня і ўзмацненьня акруговых бюджэтаў, што гэты этап трэба скарэй прайсьці і шчыльна падыйсьці да таго, каб узмацняць раённы і сельсавецкі. Мы пакуль што будуем па аднаму бюджэту сельсавецкаму на акругу. Гэтага мала. Трэба сьмялей і больш рашуча пайсьці далей.

Да перапрацоўкі бюджэтаў ня прыцягнута насельніцтва. Гэтая дырэктыва папярэдняй Сэсіі ня выканана. Дырэктыва гаварыла аб тым, каб да перапрацоўкі мясцовага бюджэту прыцягваць мясцовае насельніцтва. Дырэктыва ня выканана зусім. У адным з пунктаў сваіх пастаноў пленум Бюджэтнай Камісіі гэта падкрэсьлівае.

У адносінах раённага бюджэту трэба адзначыць, што пры ўзросьце прыбыткаў на 0,4 проц. выдаткі раённых бюджэтаў павялічыліся на 26 проц. Гэтым самым паказваецца відочна, што раённы бюджэт загадзя ўкінуты на дэфіцытнасьць. Становішча дзікае. Раённыя бюджэты павінны займаць усё больш і больш месца і ўвагі. З мінулага году адноснае месца раённых бюджэтаў паднялося з 42 проц. да 46 проц. разам з местачковымі. Адны раёнбюджэты падняліся з 42 проц. да 43 проц.—гэта ня так ужо многа. Калі прыкінуць, што раённы бюджэт атрымае нагрузку выдаткаў, не атрымоўваючы адпаведнай нагрузкі прыбыткаў, то можна загадзя сказаць, што гэта забясьпечанае дэфіцытнае становішча губіць усю справу пабудаваньня раённых бюджэтаў.

Асноўная задача ўзрашчэньня мясцовага, раённага, сельсавецкага бюджэтаў ня толькі ў дакладным разьмежаваньні мясцовага бюджэту, але і ўнутры мясцовага бюджэту больш дакладнае разьмежаваньне паміж бюджэтамі акруговым, гарадзкім, местачковым, каб раённы бюджэт атрымаў магчыма большае падмацаваньне па прыбытковай часьці, атрымаў-бы прыбытковыя крыніцы, якія затрымоўваюцца цяпер на бюджэце акруговым, пад свой загад, каб выдаткі, якія прыпадаюць на іх, раённыя бюджэты маглі-б апраўдаць у такой велічыні

як цяпер яны падаюць, і нават разьвінуць іх шырэй. Далейшая задача перад Наркамфінам і яго мясцовымі органамі, каб забясьпечыць інструктуючую работу ў адносінах сельсаветаў і РВК і праглядзець, арганізаваць з РВК-мі і сельсаветамі, зрабіць спробу выяўляць непадатковыя крыніцы прыбыткаў, праглядзець правільнасьць выкананьня і расходваньня па бюджэце і інструктаваць РВК у частцы складаньня папярэдніх каштарысаў, проектаў каштарысаў РВК-аў і каштарысаў у частцы складаньня прыбыткаў выдатковых расьпісаньняў. Сельсаветы, якія стаяць перад задачаю скласьці прыбыткова-выдатковыя расклады, наўрад ці змогуць сваімі ўласнымі сіламі як трэба справіцца з гэтым. Ясна, што ўвага Наркамфіну, акруговых фінансавых органаў у гэты бок павінна быць накіравана належная.

Сэсіі трэба ў гэтых адносінах сказаць зусім пэўна сваё вескае рашучае слова і перакінуць увагу ў бок раённага і сельсавецкага бюджэтаў.

Цікавая раса. У вагульным росьце бюджэту і нашага добрага становішча, адбіваючы агульны ўзрост гаспадаркі, агульная лічба збору мясцовых бюджэтаў на 1926-27 год перавышае асыгнаваньні давайсковых земскіх гарадзкіх бюджэтаў. А сума па земскаму гарадзкому бюджэту складалася з 12.008.000 р. На адну душу насельніцтва выдатак у давайсковы час складаў 3 руб., а мы маем у 1923-24 г. 2 р. 76 к., у 24-25 г. маем ужо павышэньне—4 р. 60 кап., 1925-26 г. 5 р. 18 к., а ў бягучым годзе 8 р. 7 к. Што датычыцца раённых бюджэтаў, дык я ўжо гаварыў, што агульная сума іх рэзка ўзрастае параўнаўча з мінулым годам на 26 проц. пры росьце ўсяго бюджэту на 12,8 проц.; гэта добры рост, але ўсё, паўтараю яшчэ раз, псуецца тым становішчам, што пры росьце выдаткаў на 26 проц. прыбытковая частка раённых бюджэтаў павялічваецца толькі на 0,4 проц.

Трэба таксама адзначыць надзвычайную стракатасьць у розных прыбытках акруг (безсубвэнцыі), асабліва выдзяляецца Калінінская акруга, нрыбытковасьць якой дае зьніжэньне, як у ўдзельнай вазе, так і ў абсолютнай лічбе супроць 24-25 году, у той час, як супроць гэтага году ўсе астатнія акругі даюць рост.

Яшчэ некалькі характэрных рыс па бюджэце народнай асьветы, аховы народнага здароўя, сельскай гаспадаркі. Бяру лічбы па мясцоваму і дзяржаўным бюджэтах,—гэта будзе мець асаблівую цікавасьць. Народная асьвета па мясцовым і дзяржаўным бюджэтах мае ў 1926-27 г. 18.500.000 р., што складае больш аднэй трэцяй часткі звычайных выдаткаў па абодвух бюджэтах. Гэта надзвычайна вялікае дасягненьне. У 1913 г. агульны выдатак на народную асьвету складаў 11 проц., у 1923-24 г.—31 проц., у 1924-25 годзе—29 проц., у мінулым годзе 33 проц., а ў бягучым годзе 35 проц. (па дзяржаўным і мясцовым бюджэтах у агульным зборы адноснае яго месца). Адзначым яшчэ, што пры росьце штатаў па мясцовых бюджэтах на 7,4 проц., зарплата паднялася на 16,2 проц., прычым на адну штатную адзінку зарплата паднялася з 465 р. да 500 р., даўшы узрост 7,5 проц. За гэты-ж час на грунтоўны рамонт трацілася (без асыгнаваньняў па субвэнцыі) усяго на 2,1 проц. больш, на гаспадарча-опэрацыйныя выдаткі павышэньне ўсяго на 8,8 проц., на новае будаўніцтва параўнаўча з мінулым годам зьніжэньне на 8,5 проц., зарплата павышаецца на 16,2 проц.

Далей бяру асобныя галіны гаспадаркі па мясцовым бюджэце і і дзяржаўным бюджэце за апошнія тры гады: народная асьвета з 8.255.000 руб. у 1924-25 г. павялічваецца да 17.502.000 руб. у сучасным годзе; ахова здароўя з 2.696.000 руб. у 1924-25 г. павялічваецца

да 6.201.000 руб.; сельская гаспадарка з 3.700.000 руб., да 7.865.000 р., іншыя з 14.900.000 руб. да 19.018.000 руб.

У мяне хваціла-б матар'ялу яшчэ надоўга, але я адчуваю ваша нецярпеньня буду некалькі комкаць і падыходзіць да канца.

З протокольных пастаноў Бюджэтнай Камісіі я абвяшчу некаторыя якія, ў проект пастаноў Сэсіі не ўвайшлі, але значэньне ім мы прыдавалі пэўнае.

Тут агаворана перш за ўсё 320.000, якія ёсьць па надзвычайных выдатках на патрэбы прамысловасьці і якия прадназначаны для мясцовай прамысловасьці з тым, каб пры ўсякім магчымым зьмяншэньні яны засталіся нязьменнымі. Далей агаворана становішча адносна звароту сум перавышэньня лясных прыбыткаў, каб гэтыя звароты накіроўваць на патрэбы грунтоўнага будаўніцтва і ў асноўным на парэбы прамысловасьці. Далей пастанова аб уніфікацыі абкладаньняў саўгаспадарак з тым, каб агульная лічба абкладаньня ў 926-27 г. не перавышала таго, што вызначана ў бюджэце па рубрыцы „арэндная плата" і „адлічэньне ад прыбыткаў". Агаворана таксама, каб пры канчатковым збалансаваньні дзяржаўнага бюджэту ня было-б дапушчана СНК скарачэньня сеткі профтэхнічных школ.

Асабліва адзначана; што да гэтага часу не ў патрэбнай ступені праводзіцца ў жыцьцё пастанова папярэдняй Сэсіі ЦВК аб актыўным удзеле насельніцтва ў перапрацоўцы бюджэтаў на мясцох.

Далей адносна неабходнасьці распрацоўкі тыповых стандартных пабудаваньняў больніц, школ, сельсаветаў у мэтах рашучага адыходу ад рознасьці і стракатасьці, якія наглядаюцца ў сучасны момант.

У выніку працы пленуму Бюджэтнай камісіі мы ўносім у Прэзыдыум ЦВК (і атрымаем па іх зацьверджаньне крэдытаў) наступныя лічбы: дзяржбюджэт па прыбытковай частцы ў ліку 47.834.377 р. (на 731.300 рублёў больш зацьверджанага СНК) і па выдатковай частцы ў ліку 53.802.272 рублёў (на 111.338 рублёў больш зацьверджанага Саўнаркомам), з дэфіцытам у 5.967.895 рублёй (на 620.362 рублі менш зацьверджанага СНК).

Адносна зьвядзеньня мясцовых бюджэтаў пленум Бюджэтнай камісіі ўносіць пропозыцыю ўхваліць паданае СНК зьвядзеньне ў збалянсаваных сумах па прыбытках і выдатках—34.770.100 рублёў.

Далей пленум бюджэтнай камісіі лічыў неабходным, каб да Сэсіі ЦВК былі прапрацованы і падрыхтованы для ўвядзеньня ў агульны бюджэт БССР на 1926-27 г. лічбы па далучанай да БССР частцы Гомельскай губэрні як па мясцовым, так і па дзяржаўным бюджэце. Як бачыце, гэта пакуль нявыканана.

Затым пленум Бюджэтнай камісіі лічыў неабходным, каб Сэсія ЦВК адначасна пастанаўленьнем па бюджэтах прыняла таксама і неабходныя дырэктывы па правядзеньні гэтых бюджэтаў і аб парадку падрыхтоўкі, складаньня і прахаджэньня бюджэтаў на 1927-28 г.

Спынюся на тых палажэньнях, якія неабходна было-б мець на ўвазе ў далейшым. Бюджэтная камісія ня здолела апрацаваць таго, што іменна называлася-б дырэктыўнымі ўказаньнямі па складаньні і прахаджэньні бюджэтаў. Начырк гэтых указаньняў яна мае. Ня здолела яна гэтага зрабіць, таму што патрэбнай прапрацоўкі па лініі Саўнаркому гэтыя матар'ялы не атрымалі. Асобныя з гэтых палажэньняў маюць, аднак, неадкладнае значэньне, і, мне здаецца, паколькі яны супярэчаньняў выклікаць ня могуць і патрэбнасьць іх відавочная, дык мы маглі-б тэй камісіі, якая будзе створана для прапрацоўкі проекту пастановы Сэсіі, даручыць таксама ў гэтых матар'ялах разабрацца, і тое, што ня выклікала-б разыходжаньняў, лягчэй змагло-б

быць формулявана, як указаньні ў справе складаньня і правядзеньня бюджэтаў, уліць у нашую рэзолюцыю. Я пэрсанальна лічу важным, каб мы адзначылі ў нашай пастанове шэраг момантаў, аб якіх я ўжо казаў у сваім дакладзе і на якіх лішні раз яшчэ спынюся. Папершае, адносна плянавасьці ў разьвіцьці бюджэтаў як у вагульным іх выглядзе, так і па асобных ведамствах, галінах, адміністрацыйных адзінках (акругах, раёнах), імкнучыся да магчыма большай роўнамернасьці ў разьвіцьці гаспадаркі і бюджэтаў паасобных раёнаў; у прыватнасьці, у галіне мясцовага бюджэту неабходна зьвярнуць увагу на плянавасьць у разьвіцьці мясцовай прамысловасьці. Гэтае палажэньне зараз стаіць перад намі рэзка, як абавязковая задача ва ўмовах сконцэнтраванай увагі да пытаньняў соцыялістычнага будаўніцтва.

У адносінах да мясцовага бюджэту ў асаблівасьці павінен быць адзначаны цэлы шэраг момантаў. Ужо зараз у бюджэце бягучага году ў адносінах да субвэнцыйнага фонду ўстанаўляюцца пэўныя адносіны. Магчыма, што субвэнцыйны фонд будзе рэзка зьменшаны, магчыма, што ў будучым годзе нам прыдзецца раўняцца па палажэньню, калі ня будзе зусім субвэнцыйнага фонду, але цэлы шэраг момантаў у мясцовай гаспадарцы патрабуе таго, каб па асобных галінах мясцовай гаспадаркі была забясьпечана пэўная ўвага і спагадныя ўмовы для разьвіцьця. У мінулым годзе мы маем практыку стварэньня асобных спэцыяльных фондаў, гэтую працу нам трэба будзе рабіць і далей шляхам стварэньня фондаў: будаўнічага, дарожнага, промфонду і інш.

Далей задача, аб якой я ўжо казаў, іменна: выдзяленьне бюджэтаў ня ў форме толькі фармальнага задаволеньня пастановы, а каб зрабіць рэальную справу і ў будучым годзе правесьці на справе выдзяленьне бюджэтаў акруговых гарадоў, неакруговых гарадоў, мястэчак, забясьпечыць патрэбную ўвагу да раённых бюджэтаў, увагу да стварэньня і ўмацаваньня сельсаветаўскіх бюджэтаў.

Далей, відавочна, як у дзяржбюджэце, гэта і ў мясцовым бюджэце трэба будзе адзначыць,—Сэсія павінна будзе даць сваю дырэктыву,— адносна месца ў бюджэтах у адносінах патрэб гаспадаркі і соцыяльна-культурных. Калі мы дагэтуль мелі на відным месцы ў бюджэце і ў мясцовым і ў дзяржаўным выдаткі на соцыяльна-культурныя патрэбы па лініі Наркамасьветы і Наркамздраву ў асноўным, далей пры становішчы прыцішанага росту прыбытковых паступленьняў і прыцішаным росьце бюджэту, трэба будзе больш жорстка ўзяць лінію на тое, каб накіроўваць сродкі ў першую і асноўную чаргу на патрэбы прамысловасьці ды сельскай гаспадаркі і, відавочна, тым самым у меншай долі на патрэбы асьветы і аховы здароўя. Гэтае палажэньне трэба рэзка падкрэсьліць, інакай адсутнасьць гэтай яснасьці ў пастаноўцы нашай працы па гаспадарчым будаўніцтве будзе моцна разьбіваць нашую ўвагу і напружаньні.

Далей, задача, якая знаходзіцца ў сувязі з большым удакладненьнем нашага бюджэту,—гэта ўстанаўленьне большай адпаведнасьці па бюджэце з фактычнымі патрэбамі, з ведамственнымі програмамі і плянамі, з падлікам асаблівасьцяй асобных акруг і раёнаў з тым, каб пад адзін грэбень усіх ня стрыгчы, а прыстасоўвацца да асаблівасьцяй іх. Мы ўжо зараз настолькі багатыя і ўжо практычнага ўмельства хапае ў нас для таго, каб гэтую задачу стаўляць перад сабой і гэтую працу прарабіць лягчэй, як раней, і лёгка прарабіць.

Затым трэба рэзка падкрэсьліць неабходнасьць і абавязковасьць уносіць у бюджэт дзяржаўны і мясцовы матар'ялы і тлумачэньні, якія-б давалі ясны малюнак нашай экономікі ў вогуле і па асобных галінах гаспадаркі, як асноўны фонд для бюджэту і асобных яго лічбаў. За-

тым, трэба прысьпешыць складаньне бюджэту. Мы ўвесь час бюджэты складаем з вялікім спазьненьнем. Праўда, у гэтым годзе мы наш бюджэт склалі раней, як у мінулым годзе, бо ў мінулым годзе бюджэт быў зацьверджаны канчаткова ў траўні месяцы. Гэтых спазьненьняў у далейшым трэба пазбыцца, бо трэба і, відавочна, можна мець бюджэт к пачатку опэрацыйнага году. Маецца цэлы шэраг прычын, дзякуючы якім наш бюджэт позьніцца. Мы пачалі падрыхтоўчую працу досыць рана—у траўні-чэрвені месяцы. Паасобныя ведамствы па асобных галінах працы позьняцца са складаньнем каштарысаў. Адсутнічаюць вытворчыя пляны і програмы. Зацяжная праца вядзецца з атрыманьнем матар'ялаў, якія могуць быць атрыманы і ў больш кароткі час. Тут, як відаць, трэба лепш арганізаваць працу і ў працы дзяржпляну на віднае месца паставіць задачу атрыманьня і разгляду магчыма раней вытворчых програм і плянаў для таго, каб, на падставе іх, ужо можна было рэгуляваць тыя ці іншыя лічбы бюджэту.

Вельмі карысна было-б, калі-б, як правіла, акругі давалі заключэньні па каштарысах тых дзяржбюджэтных устаноў, якія знаходзяцца на тэрыторыі гэтых акруг. Гэта лішні раз давала-б увязку дзяржаўнага бюджэту з мясцовым у добрых і жывых формах, карысных і для дзяржаўнага і для мясцовага бюджэту. Мы ў гэтым годзе не зацьвярджаем зьвядзеньне па мясцовых бюджэтах. Мы прымаем яго да ведама. У будучыне трэба будзе аддаць больш месца для самастойнасьці, ініцыятывы, а разам з тым і адказнасьці мець пры складаньні і выкананьні акругамі бюджэтаў. Мы так, прыблізна, формулюем гэту задачу: даць акругам больш праў і самастойнасьці ў справе пабудаваньня і выкананьня сваіх бюджэтаў, пры рэгуляваньні іх агульна-дырэктыўнымі ўказаньнямі, ведамственнымі плянамі, агульнымі контрольнымі лічбамі, стаўкамі зарплаты, нормальнымі вымернікамі выдаткаў масавага характару з тым, каб роля Наркамфіну абмяжоўвалася ў справе мясцовага бюджэту толькі даваньнем зьвядзеньня па акруговых бюджэтах, якое далучаецца ў агульнае зьвядзеньне бюджэту рэспублікі, зацьверджанае вышэйшымі органамі. Неабходна таксама ў інтарэсах большай узгодненасьці дзяржаўнага і мясцовага бюджэтаў—адначасовае праходжаньне іх у розных інстанцыях.

Трэба будзе таксама ўдакладніць палажэньне аб мясцовых органах і іх бюджэтных правох у галіне мясцовага бюджэту (Горсавет, мястэчковы і сельскі савет).

Я хачэў яшчэ спыніцца на тым, што праца бюджэтнай камісіі носіць нейкі часовы характар. Яна праводзіцца толькі перад Сэсіямі ЦВК, перад канчатковым зацьвярджэньнем бюджэту. Трэба, каб праца камісіі набыла больш доўгі характар. Трэба, каб бюджэтная камісія ўдзельнічала ва ўсіх этапах працы па складаньні і прахаджэньні бюджэту. Бюджэтныя камісіі ЦВК Саюзу і ЦВК іншых рэспублік ужо пастаўлены ў такое становішча. Зараз-жа нашая бюджэтная камісія ўступае ў працу, калі ўжо ўся праца па складаньні бюджэту скончана, праца бюджэтнае камісіі ня можа мець вялікага значэньня. А яна павінна была-б граць большае значэньне ў гэтай працы, палягчаючы ім самы разгляд і прахаджэньне бюджэту. Яна павінна-б была спалучыць дзяржаўны бюджэт з мясцовым, цэнтральныя ўстановы з мясцовымі ўстановамі. Гэта тым больш лёгка, што ў склад бюджэтнай камісіі ўваходзяць акруговыя, раённыя і мясцовыя нізавыя працаўнікі, побач з цэнтральнымі працаўнікамі. Так што я думаю, калі мы будзем выпрацоўваць проэкт пастановы Сэсіі ЦВК, трэба будзе ўнесьці гэтыя, пералічаныя мною ўказаньні (Апл ё д ы с м э н т ы).

Старшыня: Лічу пасяджэньне зачыненым.